**Сёння ў Беларусі вучыцца каля 23.000 замежнікаў з 108 краін.**

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**№ 6 (4464)**

21 студзеня 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

9 772071 964000 20006

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ВАНДАЛИЗМ

## Стыдно как!..

В Минске вчера объявился человек, который признался, что он осквернил памятник великому Пушкину: красными от краски руками наляпал на бронзе. Наверное, остались хорошие отпечатки пальцев для милиции, так что не было смысла долго скрываться. В любом случае удалось бы выйти на след отпетого хулигана.

Согласитесь, позорный акт вандализма произошел несколько дней назад в центре нашей столицы, на берегу Свислочи. Я вот, когда узнала, подумала: сколько человеческого было в том типе, который под покровом тьмы – как вор, как разбойник – накинулся на Поэта? Мне обидно: это ведь не только пятна на бронзе – она все выдержит. Это пятна прежде всего на минчанах, на нас, белорусах.

Памятник Пушкину, конечно же, отчистили, привели в порядок, но горький осадок от происшедшего вандализма надолго останется в душах нормальных людей. Так какая же гадость это сделала? Я полагаю, оперативники проведут необходимые следственные действия и откроют общественности лицо мерзопакостника.

Вандализм, как правило, идет рука об руку с глухим, тотальным невежеством. Во-вторых, если это политический протест против углубленной интеграции с Россией, то грубое хулиганство ведет к прямо противоположному результату. К обратной – конечно же, негативной! – общественной реакции. Кому еще это не понятно? И ни один толковый белорусский националист, а тем более политик, а тем более оппозиционер этого не сделает, потому что все они, как правило, люди весьма образованные, а многие еще и верующие. А памятники оскверняет уличная, без роду, без племени, шушера. Она есть в каждой нации.

Или провокаторы. Этого тоже нельзя сбрасывать со счетов.

Памятники белорусским поэтам стоят чуть ли не по всему миру. Есть они и в Москве. Что бы мы подумали о соседях, если бы там осквернили памятник Янке Купале? Купала стал бы нам только еще дороже. А россиянам сильно посочувствовали бы – сказали бы, что упадок нравственности у нации налицо. Но это произошло не в Москве и не с белорусским Песняром. Это произошло в нашем Минске с российским поэтом Пушкиным! Стыдно как!.. Стыдно в XXI веке набрасываться на символы мировой культуры, как дикие язычники на идолов, которые не помогли им во вчерашней охоте.

**Елена МОЛОЧКО.**

РЭГІЁН

## Шалёная ліса адправіла на каранцін цэлы райцэнтр

Невялікі райцэнтр Чачэрск, што на паўночным усходзе Гомельшчыны, на два месяцы закрылі на каранцін. Супрацоўнікі ветэрынарнай службы ходзяць па падворках, аглядаюць хатніх жывёл, уводзяць ім вакцыну супраць шаленства. Вядзецца адлоў бадзяжных сабак і катоў. З гарадка забаронена вывозіць жывёл.

У райветстанцыі пацвердзілі, што віною надзвычайнага здарэння стала шалёная ліса. Яна забралася на вуліцу Кааператыўную пажывіцца курамі. Дваровы сабака напаў на лісу, абараняючы хатнюю жыўнасць. Сам гаспадар прыкончыў лясную госцю.

Лабараторныя даследаванні паказалі, што ліса хварэла на шаленства. З тае прычыны эпізаатолагі і ўвялі каранцін.

Гэта не першы выпадак выяўленага шаленства дзікіх жывёл. Раённая газета паведамляе, што днямі на ферме ў вёсцы Покаць знайшлі мёртвага янота – і ён хварэў на шаленства. Яшчэ адзін хворы янот бадзяўся ў Отарскім сельсавеце.

За мінулы год у раёне ветэрынары зафіксавалі 10 выпадкаў шаленства хатніх катоў, а таксама ліс, ваўкоў і янотападобных сабак. Ад укусаў шалёных жывёл пацярпелі трое мясцовых жыхароў.

**Анатоль ЛІПСКІ.**

З ПРЫЗНАЧЭННЕМ!

## Андрэй Раўкоў – дзяржсакратар Савета бяспекі, Віктар Хрэнін – міністр абароны, Аляксандр Вальфовіч – начальнік Генеральнага штаба Узброеных Сіл

ДАСЬЕ

### Андрэй РАЎКОЎ, генерал-лейтэнант

Нарадзіўся ў 1967 годзе ў вёсцы Равякі Бешанковіцкага раёна Віцебскай вобласці. У 1984 годзе скончыў Мінскае суворaўскае ваеннае вучылішча, у 1988-м – з адзнакай і залатым медалём Маскоўскае вышэйшае агульнавайсковае каманднае вучылішча, у 1999-м – з адзнакай і залатым медалём каманднa-штабны факультэт Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь, у 2005-м – з адзнакай Ваенную акадэмію Генеральнага штаба Узброеных Сіл Расійскай Федэрацыі.

З 1988-га па 1997 год прайшоў усе прыступкі службовай лесвіцы ад камандзіра ўзвода да камандзіра батальёна. З 1999-га па 2003 год ваенную службу праходзіў на пасадах начальніка штаба і камандзіра базы захоўвання ўзбраення і тэхнікі.

З 2005-га па 2012 год займаў пасады камандзіра асобнай мабільнай брыгады, начальніка аператыўнага аддзела – намесніка начальніка штаба Заходняга аператыўнага камандавання, начальніка штаба – першага намесніка камандуючага войскамі Паўночна-Заходняга аператыўнага камандавання.

З'яўляўся камандуючым войскамі Паўночна-Заходняга аператыўнага камандавання з 2012-га па 2014 год.

У лістападзе 2014 года быў прызначаны міністрам абароны.

### Віктар ХРЭНІН, генерал-маёр

Нарадзіўся 1 жніўня 1971 года ў Навагрудку. Скончыў у 1992 годзе Омскае вышэйшае агульнавайсковае каманднае вучылішча імя М.В.Фрунзэ, у 2005-м – каманднa-штабны факультэт Ваеннай акадэміі Беларуси, у 2014-м – факультэт Генеральнага штаба Узброеных Сіл Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь.

У 1992–2003 гадах ваенную службу праходзіў на пасадах камандзіра мотастралковага ўзвода, камандзіра разведвальнага ўзвода, разведвальнай роты, начальніка аддзялення ўпраўлення – начальніка пункта апрацоўкі інфармацыі каманднага пункта асобнага разведвальнага батальёна, намесніка камандзіра асобнага мотастралковага батальёна, намесніка камандзіра асобнага разведвальнага батальёна, камандзіра асобнага танкавага батальёна, камандзіра асобнага гвардзейскага мотастралковага батальёна 6-й асобнай гвардзейскай механізаванай брыгады Заходняга аператыўнага камандавання.

Пасля заканчэння ў 2005 годзе Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь быў прызначаны старшым афіцэрам аператыўнага аддзялення аператыўнага аддзела штаба Заходняга аператыўнага камандавання.

У наступныя гады займаў пасады намесніка камандзіра, начальніка штаба – першага намесніка камандзіра 6-й асобнай гвардзейскай механізаванай брыгады Заходняга аператыўнага камандавання, начальніка штаба – першага намесніка камандзіра 11-й асобнай гвардзейскай механізаванай брыгады Заходняга аператыўнага камандавання, старшага афіцэра аддзела галоўнага аператыўнага ўпраўлення Генеральнага штаба Узброеных Сіл, камандзіра 6-й асобнай гвардзейскай механізаванай брыгады Заходняга аператыўнага камандавання, камандзіра 11-й асобнай гвардзейскай механізаванай брыгады Заходняга аператыўнага камандавання, намесніка камандуючага войскамі Заходняга аператыўнага камандавання.

У ліпені 2014 года прызначаны начальнікам штаба – першым намеснікам камандуючага войскамі Заходняга аператыўнага камандавання Узброеных Сіл. З чэрвеня 2015 года і да гэтага часу камандаваў войскамі Заходняга аператыўнага камандавання.

### Аляксандр ВАЛЬФОВІЧ, генерал-маёр

Нарадзіўся ў 1967 годзе ў Казані. У 1988 годзе скончыў Маскоўскае ваеннае агульнавайсковае каманднае вучылішча, у 1998-м – каманднa-штабны факультэт Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь, у 2008-м – Ваенную акадэмію Генеральнага штаба Узброеных Сіл Расійскай Федэрацыі.

Ваенную кар'еру пачаў у 1988 годзе ў Туркестанскай ваеннай акрузе. З 1993 года знаходзіўся на службе ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь, дзе працаваў на розных пасадах у вучэбным цэнтры падрыхтоўкі прапаршчыкаў і малодшых спецыялістаў (1993–2001 гады), на базе аховы і абслугоўвання Мінабароны (2001–2005), а таксама ў Генеральным штабе УС і брыгадзе Паўночна-Заходняга аператыўнага камандавання (2005–2010).

З 2010-га па 2012 год з'яўляўся намеснікам камандуючага войскамі Заходняга камандавання. З 2012 года займаў пасаду начальніка штаба – першага намесніка камандуючага войскамі Паўночна-Заходняга аператыўнага камандавання, а з 2015-га – камандуючага гэтымі войскамі. У 2018 годзе быў прызначаны намеснікам начальніка Генеральнага штаба Узброеных Сіл.



**Пімен ПАНЧАНКА**

### Родная мова

Кажуць, мова мая аджывае
Век свой ціхі: ёй знікнуць пара.
Для мяне ж яна вечна жывая,
Як раса, як сляза, як зара.

Гэта ластавак шчабятанне,
Звон світальны палескіх крыніц,
Сінь чабору і барвы зарніц,
І буслінае клекатанне.
Калі ж хто загадае: «Не трэба!» –
Адрачэцца ад мовы народ, –
Папрашу я і сонца, і неба:
Мне не трэба ні славы, ні хлеба,
Асудзіце на безліч нягод.

Толькі месяцаў назвы пакіньце,
Назвы родныя роднай зямлі,
Пра якія з маленства ў блакіце
Бор шуміць і пяюць жураўлі:

Студзень – з казкамі снежных аблокаў,
Люты – шчодры на сіні мароз,
Сакавік – з сакатаннем і сокам
Непаўторных вясновых бяроз,

Красавік – час маланак і ліўняў,
Травень – з першым каханнем, сяўбой,
Чэрвень – з ягаднаю зарой,
Ліпень – з мёдам,
З пшаніцаю – жнівень,

Спелы яблычны верасень,
Светлы кастрычнік
У празрыстасці чыстай, крынічнай,
Лістапад – залаты лістапад,
Снежань – першы густы снегапад...

Ці плачу я, ці пяю?..
Восень. На вуліцы цёмна...
Пакіньце мне мову маю,
Пакіньце жыццё мне!

*1964*

В МИРЕ

### В США прошли «Марши женщин»

Акции с таким названием были организованы в минувшие выходные более чем в 180 городах страны. В этом году их главными темами стали изменение климата, финансовое гендерное неравенство, право на охрану репродуктивного здоровья и иммиграция.

### В Нидерландах закрыли последнюю угольную электростанцию

Амстердамская угольная электростанция, работавшая 25 лет, закрыта ради решения климатических проблем.

Электростанция «Хемвег» ежегодно выбрасывала в атмосферу 3,3 мегатонны $CO_2$. Хотя было понятно, что закрытие станции не за горами, планировалось держать ее в рабочем состоянии до конца 2024 года. Однако этой весной министр по экономическим вопросам и климатической политике Эрик Вибес изменил мнение: он объявил о закрытии станции, чтобы выполнить решение суда по иску, который организация по климату Urgenda подала против государства.

Владелец станции – шведская компания Vattenfall – получит от правительства Нидерландов 52,5 миллиона евро в качестве компенсации. Кроме этой суммы также выделены средства, чтобы помочь сотрудникам электростанции найти другую работу.

В будущем компания Vattenfall собирается сосредоточиться на возобновляемой энергетике.

СУД

### За забойства сына – 13 гадоў

Учора ў Лепелі суд вынес прыгавор па справе аб забойстве двухгадовага хлопчыка, у якім абвінавачвалі яго маці – 24-гадовую мясцовую жыхарку Алену Харлянок.

Нагадаем, што 27 мая мінулага года ў Лепелі 23-гадовая жанчына звярнулася ў міліцыю: нібыта яе двухгадовы сын знік у парку. Але маці схлусіла. Пры вывучэнні запісаў камер відэаназірання высветлілася, што ў парку яна знаходзілася адна. Падчас агляду жылля жанчыны знайшлі цела хлопчыка. Паводле заключэння экспертыз, смерць дзіцяці наступіла ў выніку задушэння. Пазней жанчына прызналася ў страшным злачынстве.

Суд вынес рашэнне – 13 гадоў калоніі.

(tut.by.)

ЧУЛІ?

## Аляксандр Ярашук запрасіў Аляксандра Лукашэнку на з'езд Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў

Учора старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Міхаіл Орда запрасіў Аляксандра Лукашэнку ўзяць удзел у з'ездзе ФПБ, які адбудзецца ў гэтым годзе. Прэзідэнт запрашэнне прыняў.

І нават даручыў кіраўніку Адміністрацыі прэзідэнта і ўраду далучыцца да працэсу падрыхтоўкі гэтага мерапрыемства: *"Калі патрэбна будзе падтрымка на месцах, каб маглі арганізаваць выбары дэлегатаў, каб гэта было дэмакратычна і прыстойна, каб пальцам потым не тыкалі, таму што жадаючых жа шмат. Нават пасля сённяшняй гутаркі пачнуць вінаваціць прафсаюзы, што яны ўжо партыяй сталі і ледзь не галоўную ролю іграюць у палітычным працэсе..."*

Дарэчы, даволі дзіўны факт: калі ФПБ – самастойная і незалежная ад улады арганізацыя, якая не з'яўляецца структурным падраздзяленнем Адміністрацыі прэзідэнта, чаму да падрыхтоўкі яе з'езда павінны падключацца чыноўнікі з Адміністрацыі прэзідэнта?

– *Карыстаючыся выпадкам, я запрашаю Аляксандра Лукашэнку на з'езд Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў, які таксама адбудзецца ў гэтым годзе,* – маментальна адрэагаваў старшыня БКДП **Аляксандр Ярашук**. – *Спадзяюся, што ён мне, як і Ордзе, не адмовіць. Парукай таму вымаўленыя Лукашэнкам словы: «Калі ў краіне надыдуць цяжкія часы, дзяржаве спатрэбяцца і прафсаюзы...»*

*І гэта не жарт, мы будзем настойваць на сваім запрашэнні! Чым незалежныя прафсаюзы горшыя за афіцыйныя, чаму мы павінны быць абдзелены ўвагай кіраўніка дзяржавы? У нас дэмакратычная краіна, і мы таксама горача і беззапаветна любім сваю радзіму, хочам разам з уладай адстойваць незалежнасць краіны і па магчымасці падставім сваё плячо.*

*Праўда, ва ўлады і ФПБ свае адносіны. Але вось так публічна дэманстраваць... Думаю, гэта будзе цікава для міжнародных арганізацый... Нават у Цэнтральнай Азіі ўжо такога няма, каб улада так выкарыстоўвала прафсаюзы ў сваіх мэтах...*

З'езд ФПБ плануецца правесці напрыканцы лютага.

З'езд БКДП адбудзецца восенню.

**Марына КОКТЫШ.**

СТОП-КАДР

*Вось якая чарга па асвечаную ваду была 19 студзеня ў Мінску каля храма іконы Божай Маці "Адшуканне загінуўшых".*

ПАРТИЙНАЯ ЖИЗНЬ

# Дмитрий Кучук не будет участвовать в президентских выборах

*Белорусская партия «Зеленые» приняла принципиальное решение о неучастии в процедуре праймериз и выдвижении единого кандидата от оппозиции на президентские выборы.*

В воскресенье «Зеленые» избрали нового председателя.

Вместо Анастасии Дорофеевой, которая решила не выставлять свою кандидатуру на очередной срок, партию возглавил бизнесмен, директор мусоросортировочной станции «Западная» Дмитрий Кучук.

На пост председателя баллотировалась также руководитель ОО «Экодом» Ирина Сухий, однако ей не хватило буквально пары голосов.

У Дмитрия Кучука в жизни было две мечты – баллотироваться в президенты и возглавить партию.

«*Мне хочется быть лидером именно политической партии, чтобы от меня действительно что-то зависело*, – сказал Дмитрий Кучук в интервью «Народной Воле». – *Это мечта*».

И вот одна мечта наконец сбылась.



Однако победе Дмитрия Кучука обрадовались далеко не все. В интернете много критических комментариев по поводу персоны нового председателя, и в первую очередь из-за того, что он хочет принять участие в выборах, которых в нашей стране как бы и нет. Сам Дмитрий реагирует на это спокойно: «*Критика всегда полезна, а если кто-то неравнодушен к моей персоне – это даже и неплохо*».

Решение партии о неучастии в выборах Дмитрий Кучук считает странным.

«*Я говорил о том, что нужно участвовать в выборах, но проголосовали именно так – против участия в праймериз*, – говорит Дмитрий. – *Причем голосование у нас впервые было тайным. Такой раскол и напряженная ситуация в нашей организации впервые, хотя все белорусские партии проходили через это...*

*Мы сейчас будем делать основной упор на выстраивание партийных структур, ставить на учет региональные организации. Постараемся сделать партийный офис местом для коммуникаций. А самое главное – я хотел бы, чтобы за ближайшие четыре года партия «Зеленые» вошла в тройку самых узнаваемых и авторитетных белорусских политических объединений. Курс у нас сейчас будет больше на политику, чем на образовательные и иные программы.*

*Что с президентскими выборами? Если бы меня не избрали председателем партии, конечно, я участвовал бы в праймериз. Но, к моему сожалению, съезд принял решение о том, что мы не участвуем в праймериз. Решения съезда нужно выполнять, поэтому мы воздержимся от выдвижения своего кандидата в президенты.*

*Насколько влиятельной фигурой является председатель Белорусской партии «Зеленые»? Или все вопросы решает совет? Председатель партии – это мотор организации, он задает направление деятельности, решает финансовые вопросы. Председатель должен видеть реальные цели и перспективы роста партии.*

*Я действительно хотел стать председателем партии. У нас был достаточно эмоциональный съезд, внутри организации наметились некоторая конкуренция и напряжение. Но, надеюсь, у меня получится реализовать всё, что я задумал…*»

ПРЯМАЯ РЕЧЬ

# Что пообещал лидер партии на съезде?

«Сегодня списочный состав нашей партии – около 1340 человек, – *отметил Дмитрий в своей программной речи*. – У нас официально больше членов, чем в Белорусской социал-демократической партии (Грамада), однако тех, кто реально работает, можно пересчитать по пальцам.

Мы участвуем в избирательных кампаниях, однако наше участие в масштабах страны является малозаметным, а количество кандидатов, которое выставляет наша партия на выборы, ничтожно мало. Как мы будем доносить до белорусов то, кем мы являемся и чего мы хотим, если не через участие в избирательных кампаниях?

Я понимаю, что в стране нет настоящих выборов, однако в избирательный период есть реальная возможность увеличивать нашу аудиторию и искать новых активных сторонников, использовать тот социальный набор ресурсов, который гарантирует государство во время так называемых выборов, – телевыступления, теледебаты, радио, газеты, пикеты, листовки и т.д. Чем больше нас будет и чем четче будет наше послание, тем большая у нас будет узнаваемость и поддержка в обществе.

Сейчас у нас есть проблемы с узнаваемостью и позиционированием, а также нашей значимостью и работоспособностью в среде других политических организаций. Мы всё не можем дорасти до полноправного субъекта в рамках кампании наблюдения «Право выбора», так как не можем целиком закрыть хоть один округ наблюдателями на парламентских выборах, либо быть полноправным субъектом в принятии политических решений, в том числе и в вопросе выдвижения единого кандидата в президенты от демократических сил. Чтобы нас заметили, приняли и начали с нами считаться, нужны новые люди, нужны кандидаты в депутаты, нужны те, кто готов участвовать в независимом наблюдении на выборах.

У Белорусской партии «Зелёные» много плюсов. Нельзя сказать, что мы провластные, нельзя сказать, что мы радикальные или националистические. Это тот имиджевый плюс, которым необходимо пользоваться для привлечения новых сторонников в наши партийные ряды. Нашему положительному имиджу способствует декларируемая нами «зеленая экономика» и значительный рост рейтинга «Зеленых» в Европе.

Сейчас идет активная подготовка к выборам среди демократических сил страны. Идут переговоры по возможности выдвижения единого кандидата от оппозиции. В качестве наблюдателя в этих переговорах принимаю участие и я.

Считаю, что мы как партия должны активно присоединиться к этой процедуре. Тем более что выдвинуть своего кандидата в президенты наша партия уже пыталась дважды. Один раз для победы, второй раз для смеха.

В третий раз я предлагаю выдвинуть кандидата, который в случае победы сможет стать единым. В качестве кандидата в президенты предлагаю свою кандидатуру.

Что я хочу изменить в партии?

Я хочу встряхнуть организацию, активизировать работу, сделать ее системной, привлечь в наши ряды новых членов, улучшить узнаваемость партии и ее позиционирование, активизировать работу с нашими партнерами.

Мне хочется, чтобы у нашей партии появилось ядро притяжения для наших активистов и сторонников. Этим ядром должен стать партийный офис, и я готов решить данную проблему в самое ближайшее время. Сейчас все рассуждают так: нет офиса – нет партии. Ведь без этого любая встреча или работа проходит в спешке, ослаблены внутрипартийные коммуникации.

Как бизнесмен я всегда вкладывал в работу организации немало своих личных средств. Если вы окажете мне доверие, то моя отдача и мотивация в этом вопросе существенно увеличатся.

Отдельно хочу отметить необходимость в развитии региональных отделений. Наши идеи через наших активистов должны быть представлены и в регионах. Слабость и отсутствие наших структур в регионах приводит к тому, что практически все экологические протесты против вредных производств в Бресте, Светлогорске или Могилеве проходят без нашего участия. На экологической тематике зарабатывают бонусы другие партии и организации. Единственная тема, с которой нас еще ассоциируют, – это строительство АЭС, однако нас в ней расценивают больше как экспертов, нежели политиков, и это также необходимо менять!

Как известно, политиками не рождаются – ими становятся. Это означает, что Белорусская партия «Зеленые» должна готовить таких политиков. Не просто экологических активистов, а именно политиков, которые могли бы отстаивать свои цели и ясно формулировать, чего они хотят.

Усилим ли мы свое влияние, станем ли мы заметной политической силой или будем, как и сейчас, больше похожи на НГО, зависит от каждого из нас.

Я призываю поддержать мою стратегию развития организации и отдать голоса в мою поддержку. Обещаю, что через четыре года мы станем сильнее, влиятельнее и будем более узнаваемыми!»

**Марина КОКТЫШ.**

**На фото: председатель БДСП Игорь Борисов одним из первых поздравил Дмитрия Кучука с победой на выборах.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Игра в «расчлененку»

Владимир Путин объявил о разработке нового варианта Конституции Российской Федерации. Его, как говорится, право. И их, как говорится, дело.

Но вот член Конституционной комиссии, созданной указом президента Российской Федерации, некто Богдан Безпалько, представляемый в интернете как «один из лидеров украинцев России», следующим образом ответил на вопрос корреспондента информационного ресурса «Украина.Ру»: ***«Что-то в Конституции будет по облегчению для граждан Украины вступления в российское подданство? Может, всех украинцев признают русскими?***

*– Я очень на это надеюсь, и, конечно, мне лично очень хотелось бы увидеть эти нормы в Конституции РФ. И не только в отношении Украины, но и Белоруссии. Это позволило бы в значительной мере решить демографическую проблему – масса граждан Украины и Белоруссии получили бы возможность принимать участие в строительстве и возрождении России. Напомню, что проблему демографии в своем послании президент обозначил как проблему основную, самую опасную, угрожающую самому существованию нашей страны*».

Для тех, кто не в курсе, Богдан Анатольевич Безпалько – заместитель директора Центра украинистики и белорусистики Московского государственного университета, член Консультативного совета по делам национально-культурных автономий при Министерстве регионального развития Российской Федерации, председатель правления Общероссийской общественной организации «Федеральная национально-культурная автономия «Украинцы России». В общем, эксперт. В таковом качестве он востребован радиостанцией «Голос России», агентством РЕГНУМ, а также Национальной академией наук Беларуси, в конференциях которой, как утверждает ряд сайтов, регулярно принимает участие.

Сейчас господин эксперт с полным знанием дела не просто предлагает облегчить право граждан Беларуси принимать российское гражданство – в конце концов, это личное дело каждого гражданина, не находящегося на государственной службе в Республике Беларусь. Последний абзац интервью Богдана Безпалько звучит следующим образом:

*– Мне бы очень хотелось, чтобы право на ирреденту – воссоединение всего Русского мира – было закреплено не просто в законодательстве, но и в Конституции России. Тогда бы любой регион не только Украины, но и Белоруссии имел бы возможность присоединения к России на основании этого положения Конституции, а не только положения о праве наций на самоопределение.*

А вот это уже совсем неприятный и неприемлемый для всякого суверенного государства тезис. Учитывая, что в Конституции соседнего государства – это декларировал его президент и это было воспринято на ура правящей элитой – вносится пункт о приоритете российской Конституции над международным правом, – принятие данного предложения автоматически означало бы ликвидацию всех механизмов защиты государственной целостности Беларуси, кроме военных. Ибо предлагаемая господином Безпалько «расчлененка» – не что иное, как легализация захватнической модели, апробированной Россией в ситуации с Крымом. Только по отношению к Крыму это было сделано задним числом, а нашу синеглазую родину, видите ли, расчленять будут уже после того, как этот пункт вступит в силу.

Если, конечно, вступит. Хотя умом Россию не понять.

В России начался транзит власти. Путин этого не скрывает: вся конституционная реформа понадобилась ему исключительно для того, чтобы получить личные гарантии и создать механизм, обеспечивающий данные гарантии вне зависимости от того, какой пост он будет занимать в будущем. Но напрягать еще больше, чем сегодня, отношения со всем окружающим миром – это вам не историю польско-российских отношений пересматривать. Закрепление подобной агрессивной по своему посылу статьи в основном законе России будет означать фактически демонстративный вызов всем, а не только Украине и Беларуси. И тут уже действительно можно дождаться появления американских военных баз в Украине и в Беларуси. Причем даже при нынешнем президенте Беларуси. В конце концов это будет всего лишь попытка предотвратить «расчлененку».

Я не знаю, когда следующий раз господин Безпалько приедет в Минск и на какую именно академическую конференцию. Но очень хочется знать по этому поводу мнение академика-секретаря Отделения гуманитарных наук и искусств Национальной академии наук Беларуси, члена-корреспондента НАН РБ, доктора исторических наук, профессора, лауреата премии Президента Республики Беларусь «За духовное возрождение» Александра Ковалени, по мнению которого победа Суворова над Костюшко некогда способствовала развитию белорусов как нации. Что думает профессор Коваленя по поводу идеи эксперта Безпалько – насколько она в случае реализации будет содействовать развитию белорусов как нации и развитию белорусской государственности? Хочется, как писал Жванецкий, услышать начальника транспортного цеха. Ибо в данном случае молчание академиков уж точно будет означать их согласие.

С моей же точки зрения Богдан Безпалько – откровенный мудак. Хотя, как вы понимаете, редакция не всегда разделяет мнение своих обозревателей.

У ДАРОГУ!

# Аляксей Бага будзе галоўным трэнерам вільнюскага «Жальгірыса»



Так, зусім мала часу былы настаўнік барысаўскага БАТЭ быў без работы. З'явілася інфармацыя, што ён ужо заключыў пагадненне з вільнюскім "Жальгірысам". Дапамагаць яму будзе таксама выхадзец з БАТЭ Валерый Тарасенка.

Здаецца, хлопцу выпаў удачны варыянт. Вільнюс, лічы, як дома: дзве з паловай гадзіны – і ты ў Мінску. Чэмпіянат Літвы – гэта не чэмпіянат Германіі, Расіі ці Англійская прэм'ер-ліга, тут іншыя арыенціры. Так што ёсць магчымасць зарэкамендаваць сябе з найлепшага боку і атрымаць нармальнае ўзнагароджанне.

**Георгій ПУЦЕЙКА.**

ТАМ, У СВЕТЛАГОРСКУ

# «Манныя крупы» на галаву…

## *Цэнтр гігіены ўмывае рукі*

Жыхары Якімавай Слабады, што пад Светлагорскам, былі здзіўлены, калі 3 студзеня іх вёску накрыла белашэрым ці то попелам, ці то парашком, падобным на манныя крупы. Невядомае рэчыва ляжала на дахах, вокнах, прысадах, платах, машынах і, вядома, на зямлі, дзе, праўда, было мала заўважным.

Блізкае суседства з праблемным заводам беленай цэлюлозы, які перыядычна прыносіць у Якімаву Слабаду смуродны пах, вымусіла вяскоўцаў звярнуцца ў занальны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі. Што гэта за попел-парашок? Адкуль ён прыляцеў?

Людзі наскрэблі таго рэчыва і сталі клікаць санітарных спецыялістаў. Прыехаў сам галоўны ўрач раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Аляксандр Лугінец. Паглядзеў, але браць на аналіз тыя "манныя крупы" адмаўляўся. Збірайце, маўляў, грошы і самі рабіце аналіз на платнай аснове, бо не факт, што парашок гэты выкінуты са "смуроднага" завода.

Вяскоўцы і грамадскія актывісты са Светлагорска сталі на сваім: бруд на галаву сыплецца – правярайце!

Праз два тыдні на імя Людмілы Марыневіч з Якімавай Слабады і Алены Маслюковай са Светлагорска прыйшоў ліст, падпісаны намесніцай Лугінца Тамарай Шаўцовай. У ім чорным па белым напісана, што лабараторыя занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі "*праводзіць даследаванні аб'ектаў па паказчыках, прыведзеных у вобласці акрэдытацыі, якая з'яўляецца дадаткам атэстата акрэдытацыі. Аб'ектам выпрабаванняў можа быць канкрэтны від прадукцыі або фактар асяроддзя пражывання чалавека, які прызначаны ў вобласці акрэдытацыі*".

І далей:

"*З прычыны таго, што прадстаўлены на даследаванне бела-шэры парашок не прадстаўляецца магчымым ідэнтыфікаваць, як і суаднесці з аб'ектамі выпрабаванняў, якія ёсць у вобласці акрэдытацыі, занальны цэнтр вымушаны адмовіць у правядзенні такой пробы*".

Я спецыяльна працытаваў фрагменты ліста спадарыні Шаўцовай – гэта ж трэба так закруціць, што і зразумець немагчыма, што і да чаго! Але галоўнае нават не ў занадта мудрагелістых фармулёўках.

– Мала таго, што нам на галовы высыпаюць нейкі бруд, дык раяць яшчэ шукаць за грошы лабараторыю, дзе яго даследуюць! – абураецца Людміла Марыневіч. – Ураҗанне такое, што цэнтр гігіены быццам бы і не адказвае за санітарна-эпідэміялагічную сітуацыю ў рэгіёне.

Завод беленай цэлюлозы ў Светлагорску будавала на замову беларускага боку кітайская карпарацыя САМСЕ – на крэдыт з таго ж Кітая.

Кошт новага прадпрыемства, якое плануе вырабляць 400 тысяч тон беленай цэлюлозы ў год, склаў каля мільярда долараў. Прадугледжвалася запусціць новую вытворчасць яшчэ пяць гадоў таму, але будаўніцтва і пуска-наладачныя работы зацягнуліся. Дадаліся яшчэ і "смярдзючыя выкіды". У мінулую зіму тэрыторыю прадпрыемства заліла пеністай вадкасцю з ачышчальных збудаванняў, а ўвесну ў адным з цэхаў абваліўся дах. Цяпер вось прыляцелі невядомыя "манныя крупы".

Жыхары Якімавай Слабады і Светлагорска ўжо не раз выходзілі на акцыі пратэсту, патрабуючы вырашыць праблему са "смярдзючым заводам". Справа ў тым, што вытворчасць беленай цэлюлозы звязана з выкідамі метылмеркаптанаў, якія ў вялікіх дозах могуць выклікаць нават смерць.

Дырэкцыя Светлагорскага цэлюлозна-кардоннага камбіната і канцэрн "Беллеспаперпрам" запэўніваюць мясцовых жыхароў, што запуск вытворчасці беленай цэлюлозы "знаходзіцца пад кантролем". Пры гэтым у канцэрне адзначаюць, што ў санітарна-абарончую зону не патрапілі тэрыторыі садаводчых таварыстваў і дачных кааператываў, парнікі і адкрытыя надзелы Светлагорскай агароднiннай фабрыкі, а таксама сядзібная жылая забудова вёскі Якімава Слабада.

**Анатоль ЛІПСКІ.**



**На здымку: Светлагорскі завод беленай цэлюлозы.**

ПЕРАСЛЕД

# Блогер «Шэры Кот»: хто ён?

*Дзмітрыю Казлову далі ўжо 60 сутак адміністрацыйнага арышту.*




Паводле звестак праваабаронцы Паўла Левінава, відэаблогер Дзмітрый Казлоў, вядомы пад нікам «Шэры Кот», які адбывае адміністрацыйны арышт, тройчы быў асуджаны завочна паводле ч.3 арт.23.34 КаАП.

Хлопец патрапіў у аршанскі ізалятар часовага ўтрымання 26 снежня мінулага года. 9 студзеня яго чакалі пасля 15-суткавага арышту. Але на волю ён так і не выйшаў, бо якраз у той дзень суд Оршы і Аршанскага раёна пастанавіў пакараць яго наступным, другім запар 15-суткавым арыштам – за ўдзел у акцыях супраць «паглыбленай інтэграцыі» 21 снежня.

На наступны дзень, 10 студзеня, яго зноў судзілі – за ўдзел у мінскіх пратэстах 20 снежня. Пастанова суда – трэці арышт на 15 сутак.

13 студзеня Дзмітрый Казлоў быў асуджаны на 15 сутак ужо чацвёрты раз – за заклікі ў сацыяльных сетках на сход у Мінску 29 снежня. Такім чынам, за кратамі ён мусіць адбыць 60 сутак.

Хто ж ён такі?

Дзмітрый Казлоў вядзе блог “Шэры Кот”, гэта і ягонае хобі, і работа. Яму 31 год, жыве ў Оршы. Пасля школы паступіў у Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію, але не скончыў яе.

Працаваў на авіярамонтным заводзе і льнокамбінаце, але апошнім часам займаецца толькі відэаблогерствам. Вылучаў сваю кандыдатуру падчас апошніх выбараў у Палату прадстаўнікоў, *“каб дагрукацца да людзей, якія не глядзяць палітычных блогераў у інтэрнэце”*.

*“Упершыню ў палітыку я трапіў, калі выйшаў на “Марш дармаедаў”*, – распавядаў **Дзмітрый Казлоў** svaboda.org. – *Не з’яўляюся сябрам грамадзянскай кампаніі “Еўрапейская Беларусь”, але падтрымліваю іх асноўныя перадвыбарныя тэзісы: абарона суверэнітэту, вяртанне свабодных выбараў, паляпшэнне дабрабыту людзей, экалогія, закрыццё АЭС, зніжэнне колькасці дзяржаўных прадпрыемстваў”*.

Пра блогерства Дзмітрый Казлоў кажа так: *“Блог – гэта маё хобі і работа адначасова. Я зарабляю на гэтым, дзякуючы ахвяраванням падпісчыкаў. Гэта я і дэклараваў пры рэгістрацыі кандыдатам у Палату прадстаўнікоў, і пытанняў не ўзнікла”*.

*“Са Змітром Казловым мы пазнаёміліся ў Курапатах*, – дадае **Павел Севярынец**. – *Мінулай зімой ён як блогер прыехаў здымаць варту, крыжы – і стаў адным з нас, абаронцаў.*

*Зміцер – мой зямляк, ён з Барані. А гэта шмат значыць. У Барані, што пад Оршай, мы, Севярынцы, калісьці, у 1980-х, пражылі некалькі гадоў: тата працаваў рэдактарам заводскай шматтыражкі на бараньскім заводзе, матуля – настаўніцай у школе.*

*…Яго выступленне на плошчы 21 снежня сапраўды было ашаламляльным. Ён проста, ясна і даходліва патлумачыў, што трэба зрабіць кожнаму беларусу, каб абараніць незалежнасць і здабыць свабоду. Вось за гэта “Шэрага Ката” і ламаюць пры дапамозе канвеера сутак”.*

**Віктар ШПАК.**

ВНИМАНИЕ!

## Гостехосмотр – без медицинской справки

*Наклейка на лобовом стекле – вместо сертификата*

Как известно, на свет появился Указ президента «Об упрощении некоторых административных процедур». В нем есть пункты, которые напрямую касаются автовладельцев. Теперь, отправляясь на техосмотр, не нужно захватывать с собой медицинскую справку, ее никто не будет спрашивать. Но она понадобится, когда вы будете менять водительское удостоверение, а также при возвращении прав после лишения. И, конечно, когда вы их получаете впервые.

Заметим: медицинскую справку теперь возить с собой вообще не нужно, госавтоинспектор не вправе ее требовать.

Отменяется талон техосмотра. Достаточно одной наклейки на лобовом стекле, она является разрешением на допуск транспортного средства к участию в дорожном движении.

**Федор ЗАВАДСКИЙ.**

РЭГІЁН

# Ачысныя ад фонду «Кока-Колы»

*У ландшафтным заказніку “Азёры”, што ў Гродзенскім раёне, усталявана сістэма пясчаных нафтапаглынальнікаў сцёкавых вод, якія трапляюць у возера Белае.*

Згодна з вынікамі лабараторных даследаванняў проб глебы, праведзеных у 2018 годзе, утрыманне нафтапрадуктаў паблізу возера Белае перавышала норму ў 1,4–3,4 раза, а ў пробах вады ўтрыманне марганцу не адпавядала гігіенічным патрабаванням, зацверджаным Мінздравам.

Возера Белае з’яўляецца буйнейшым вадаёмам на тэрыторыі раёна і фарміруе адзіную цэльную водна-балотную сістэму, якая характарызуецца ўнікальнымі прыроднымі комплексамі з вялікай біяразнастайнасцю.

На беразе возера знаходзіцца аграгарадок “Азёры”. Тут жывуць больш за 3 тысячы чалавек. Апроч гэтага, мясцовасць з’яўляецца адным з самых улюбёных месцаў адпачынку турыстаў. Да ўсяго побач з возерам пралягае аўтамагістраль Р145 з інтэнсіўным рухам.

*“Вада, якая трапляе ў возера з боку аўтамагістралі, забруджана нафтапрадуктамі, маторнымі алеямі, цяжкімі металамі і солямі,* – распавядае “Народнай Волі” дырэктар заказніка Дзмітрый Марозік. – *У выніку фарміруецца павярхоўны пласт, які перашкаджае пранікненню кіслароду, што прыводзіць да гібелі водных арганізмаў. Наяўнасць дадзеных таксічных рэчываў у вадзе таксама адмоўна ўплывае на здароўе мясцовага насельніцтва і турыстаў”*.

З мэтай вырашэння гэтых праблем у межах праграмы “Новы свет” фонду “Кока-Кола” быў распрацаваны праект “Стварэнне структуры па захаванні і ўстойлівым кіраванні воднымі рэсурсамі рэспубліканскага заказніка “Азёры”.

У выніку была зманціравана найноўшая сістэма пясчаных нафтапаглынальнікаў сцёкавых вод, якія трапляюць у возера Белае. На гэтыя мэты ў межах праекта з фонду былі прыцягнуты сродкі міжнароднай тэхнічнай дапамогі ў памеры 300 тысяч беларускіх рублёў. Установка, размешчаная ў аграгарадку Азёры, уяўляе сабой камбінаваны пясчаны бензаалеепаглынальнік BelECOline K15S L-8.3 прапускной магутнасцю 15 літраў у секунду.

*“Гэта ёмістасць, падзеленая на тры асобныя камеры. У першай вядзецца ачыстка вады ад цвёрдых буйных часціц. У другой знаходзіцца калісцэнтны модуль (фільтр), які збірае буйныя кроплі розных нафтапрадуктаў. А ў трэцяй камеры ўтрымліваецца каля 700 кілаграмаў адмысловага сарбенту, які паглынае ўсе астатнія нафтапрадукты,* – расказвае Дзмітрый Марозік. – *І пасля гэтага ўжо чыстая вада трапляе ў возера”*.

У выніку ачысткі сцёкавых вод доля ўзважаных рэчываў у іх складае не больш за 10 мг/л, а нафтапрадуктаў – не больш за 0,05 мг/л, што адпавядае нормам.

Супрацоўнікі заказніка “Азёры” вельмі спадзяюцца, што дзякуючы працы ачышчальнай установкі колькасць забруджвальных рэчываў у возеры Белым істотна знізіцца.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**



**На здымку: падчас мантажу сістэмы пясчаных нафтапаглынальнікаў сцёкавых вод у Азёрах.**

КРИМИНАЛ

# Минчанин набрал долгов на 2 миллиона долларов и хотел сбежать в США

*Следственным комитетом завершено расследование уголовного дела в отношении 35-летнего минчанина, который обвиняется в мошенничестве, совершенном в особо крупном размере.*

Мужчина в период с 2012-го по 2014 год путем обмана или злоупотребления доверием завладел денежными средствами 34 граждан на общую сумму свыше 2 миллионов деноминированных рублей.

В Беларуси он выдавал себя за успешного бизнесмена. И просил знакомых одолжить ему денег для осуществления высокодоходной коммерческой деятельности по оптовым поставкам мясной продукции и сыра.

Мошеннику удалось завладеть двумя дорогостоящими автомобилями Porsche и Lexus. Указанные автомобили его знакомые продавали по рыночной цене, однако обвиняемый предложил купить их на порядок дороже, но в рассрочку на год. Поскольку предложенная цена превышала желаемую на несколько тысяч долларов США, потерпевшие согласились.

Обвиняемый в несколько этапов взял взаймы у одного из потерпевших более 350 тысяч долларов США. Для того чтобы произвести на него впечатление и быстрее наладить общение, на одну из встреч мужчина приехал на взятом напрокат автомобиле Mercedes представительского класса и положил в багажник несколько заранее купленных свежих карпов. Потерпевшему он рассказал, что только что приехал с подводной рыбалки и готов его угостить пойманной рыбой. После чего предложил поехать в ресторан для обсуждения условий сделки.

Он часто ездил отдыхать за границу, покупал брендовую одежду и аксессуары, а также посещал игорные заведения. Больше миллиона долларов США он проиграл, являясь VIP-клиентом одного из крупных казино столицы.

В 2014 году в правоохранительные органы стали поступать заявления от обманутых граждан. Как только обвиняемый узнал об этом, он сразу отправил свою семью в США и сам уехал. Его объявили в межгосударственный розыск.

В 2017 году на территории России он был задержан за попытку получения кредита в банке по поддельному паспорту. После отбывания наказания на территории России в мае 2019 года обвиняемого экстрадировали в Беларусь.

Уголовное дело передано прокурору для направления в суд.

РАМЕСНІЦТВА

# Па-за ўвагай дзяржавы

*Рамесніцкая дзейнасць у апошнія некалькі гадоў стала папулярнай на Гродзеншчыне. Паводле афіцыйных звестак, у 2014 годзе рамесніцкі збор у вобласці заплацілі 1175 чалавек, а ў 2018-м – 4268 майстроў. І ўсё ж якасных вырабаў умельцаў дадалося няшмат. Што стаіць за гэтым імклівым творчым пошукам, разбіраўся наш карэспандэнт.*

## «Ручная праца затратная і не акупляецца»

Зарэгістраваць рамесніцкую дзейнасць у Беларусі зараз можна літаральна за адзін дзень. Але яна, як правіла, не з’яўляецца высокадаходнай і арыентавана пераважна на занятасць людзей. Відавочна, што гэта ўлічваецца заканадаўцамі, а таму тыя, хто вырашыў гэтым займацца, вялікіх выплат у бюджэт не робяць. Рамесніцкі збор у канцы года складае ўсяго адну базавую велічыню.

Гродзенка Вольга распавядае, што рамесніцкай дзейнасцю занялася таму, што страціла працу. Паводле адукацыі яна аграном, але вырашыла заняцца валеннем з воўны.

Праз паўгода актыўнай працы Вольга пабачыла, што з дапамогай рамесніцкай дзейнасці не зводзіць канцы з канцамі. Матэрыялы дарагія, затраты на вытворчасць высокія, а продажы слабыя. Пашэнціла, што ўладкавалася на працу загадчыцай склада.

– Хоць я набралася вопыту, прапаную эксклюзіўныя вырабы, пабывала на шматлікіх рамесніцкіх ярмарках, усё роўна жыць толькі з гэтай дзейнасці немагчыма, – канстатуе Вольга. – Заўважу: усе мае знаёмыя, хто займаецца валеннем з воўны, маюць нейкую асноўную працу…

Падсумоўваючы нашу размову, Вольга ўпэўнена кажа: рабіць сёння рэчы сваімі рукамі дорага і часта нерэнтабельна. На яе думку, наш пакупнік схільны купіць за капейкі кітайскі шырпатрэб, а не дыхтоўную рэч, зробленую сваімі рукамі, бо яна значна даражэйшая. А таму ёй давялося адмовіцца ад дзейнасці, якой яна не можа сябе пракарміць.

## Вельмі невялікі працэнт рамеснікаў можа з гэтага жыць…

Раман займаецца ганчарствам і працуе ва ўласнай майстэрні на тэрыторыі прыватнага музея. Яго дзейнасць рэнтабельная, і ганчарства – гэта яго адзіны занятак, які корміць усю сям’ю. Ён вырабляе гліняныя збаны, посуд і сувеніры.

– Мае вырабы носяць больш сучасную эстэтыку, адносіць іх да традыцыйных класічных ганчарных вырабаў не зусім апраўдана, – падкрэслівае майстар. – У іх шмат мадэрну, таго, што цікавіць сучаснага пакупніка.

Раман распавядае, што прафесіяналізм напрацоўваў на працягу двух гадоў і толькі пасля гэтага пакінуў ранейшую працу і здолеў зарабляць на жыццё выключна рамесніцтвам. Заўважае, што ў апошнія гады ў Беларусі з’явіліся цікавыя ганчары, вырабы якіх складаюць канкурэнцыю ў тым ліку і яго прадукцыі.

– На жаль, пакуль на рамесніцкіх ярмарках у Беларусі і ў сувенірных крамах большасць прадукцыі прывезена з Кітая, а не зроблена рукамі беларускіх майстроў, – падкрэслівае Раман. – Праца рамесніка вельмі складаная, дасягнуць майстэрства можна толькі карпатлівым падыходам. А ў нас растуць толькі лічбы тых, хто рэгіструецца ў якасці рамесніка, каб не лічыцца дармаедам.



Як бы там ні было, але працэс адраджэння рамесніцтва ўжо не спыніць. Бо людзі, якім гэта прыносіць даход і для якіх гэтая справа ўяўляе цікавасць, не перастануць займацца рамесніцтвам.

## Патрэбна дзяржаўная падтрымка

Галіна робіць рознага кшталту ўпрыгажэнні для жанчын. Займаецца гэтым больш за чатыры гады і ўвесь гэты час мае асноўную працу – яна экскурсавод. Часта выязджае з экскурсіямі за мяжу і бачыць, як пастаўлена рамесніцтва ў іншых краінах.

Галіна ўпэўнена, што для таго, каб рамесніцтва ў Беларусі насамрэч было высокага ўзроўню, без падтрымкі дзяржавы не абысціся.

– Я бачыла, якія майстэрні і якія ўмовы створаны для рамеснікаў у Кракаве. Там яны могуць спачатку азнаёміцца з тэорыяй, а потым на практыцы, пад кіраўніцтвам дасведчаных выкладчыкаў паўтараць тыя промыслы, якімі займаліся іх продкі, – кажа жанчына. – У Венгрыі ёсць цэлыя вёскі рамеснікаў, туды прывозяць шматлікіх турыстаў, якія набываюць самыя розныя сувеніры. І людзі з гэтага могуць прыстойна жыць.

У Беларусі, паводле слоў Галіны, за месца на ярмарцы трэба падчас аддаць 40 рублёў у дзень, а таму казаць пра заробкі вельмі праблематычна.

Гаворачы пра ўзровень прадукцыі рамеснікаў у Гродне, мясцовы мастак і дызайнер Алесь Сураў з жалем зазначае, што такая сур’ёзная справа, як адраджэнне старых рамёстваў, па сутнасці пушчана на самацёк. Так, ёсць невялікі працэнт сапраўдных рамеснікаў-майстроў, але большасць у гэтай галіне выпадковыя людзі.

– Я разумею, што ў многіх людзей няма працы і яны хаваюцца за рамесніцтвам ад «дармаедскага» дэкрэта, – заўважае мастак. – Але справа ў тым, што абсалютная большасць з іх не маюць дачынення ні да народных промыслаў, ні да народнага мастацтва. Хаця рамеснік сам па сабе павінен быць тым, хто мае дачыненне да народных рамёстваў, а не проста прадае вязаныя шкарпэткі ці старыя фотаздымкі Гродна ў рамках.

Мастак Сураў перакананы, што варта было б вярнуцца да таго, каб пасведчанне рамесніка можна было атрымаць ад нейкай адпаведнай камісіі, якая магла б ацаніць вартасць вынікаў творчасці канкрэтнага чалавека. Яшчэ напрыканцы 1980-х, успамінае мастак, у горадзе было ўтворана Таварыства народных майстроў. Рамеснікаў было няшмат, але яны насамрэч былі прафесійнымі майстрамі, якія адраджалі народную культуру.

– Мне вельмі няёмка бывае перад турыстамі, якія наведваюць Гродна і хочуць набыць тут на памяць нейкі сувенір, – з жалем канстатуе Алесь. – Замест кірмашоў сапраўдных рамеснікаў у нас у цэнтры горада звычайная барахолка з кітайскім шырпатрэбам і вязанымі шкарпэткамі. Сумна…

І, на вялікі жаль, гэта барахолка засланяе сапраўдныя мастацкія рэчы, зробленыя рукамі майстроў у традыцыях народа.

– Усё павінна быць па-іншаму, бо ёсць жа ў нас і мастацтвазнаўцы, і цэлы метадычны цэнтр народнай творчасці, народных рамёстваў. Гэтым пара ўжо заняцца, бо інакш знікне нават тое, што яшчэ захавалася, – лічыць мастак Сураў.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

100 РАДКОЎ



Міхася СКОБЛЫ

# Сёмуха круглы год

У дзесяці тысяч беларусаў на кніжнай паліцы стаіць яго Біблія. Хтосьці бярэ яе ў рукі радзей, хтосьці часцей, хтосьці возіць яе з сабою па свеце як абярэг, хтосьці вывучае па ёй беларускую мову. Яе так і называюць – Біблія Сёмухі, і ў гэтым не адчуваецца ніякага блюзнерства ці непавагі да сапраўдных аўтараў. Проста ўсе ведаюць пра агромністую самаахвярную працу перакладчыка. Пятнаццаць гадоў Васіль Сёмуха прасядзеў над Бібліяй і пасля прызнаваўся, што доўгі час нешта іншае перакладаць папросту не мог – такім спустошаным сябе адчуваў.

Без Біблii на роднай мове народ так і можа застацца ў запечку сусветнай культуры. Гэта разумеў яшчэ Францішак Скарына паўтысячы гадоў таму. І ў ХХ стагоддзі былі спробы – больш ці менш удалыя – яе поўнага перакладу. Але адны перакладчыкі залішне эксперыментавалі з мовай Святога Пісання, другім не хапіла цярпення, трэцім – жыцця, каб закончыць пачатую працу. Васілю Сёмуху хапіла ўсяго. Хоць і яго нярэдка крытыкавалі (асабліва багасловы) за вольнае трактаванне таго ці іншага біблейскага вобраза.

Памятаю, неяк і я не вытрымаў ды звярнуў увагу перакладчыка на відавочную (як мне здавалася) хібу. Бо калі варыянты напісання *Галгофа – Гальгота* яшчэ можна зразумець, то як магло стацца, што адна і тая ж расліна з Евангелля ад Лукі ў розных перакладчыкаў названа па-рознаму: ва Уладзіслава Чарняўскага *шыпшыннікам*, у Янкі Станкевіча – *чупчыннікам*, у Міхася Міцкевіча – *асотам*, у Анатоля Клышкі – *ажынай*, а ў Сёмухі – *хмызняком*?

І Васіль Сяргеевіч цярпліва патлумачыў, што пераклады Біблii рабіліся людзьмі з рознай тэалагічнай ды філалагічнай падрыхтоўкай, а таму розначытанні ў такім выпадку былі проста непазбежныя. Напрыклад, слова «логас» у грэчаскай мове азначае каля дзясятка розных паняццяў, у мовах сучасных адпаведніка яму проста няма, а значыць, на яго месцы ў Кнізе Быцця («Спачатку было Слова...») магло з'явіцца столькі ж розных слоў. І яны з'яўляліся – то найбольш пашыранае *слова*, то *ўчынак*, то *сіла*, то *справа*, то *подзвіг*... І кожны з варыянтаў быў правільны, але – недастатковы.

Пераклад Біблii, бясспрэчна, і ўчынак, і подзвіг, здзейснены на адзіноце ў кватэрным зацішку. Тая тытанічная праца ў нечым змяніла самога перакладчыка – і раней не вельмі публічны, ён у сталым веку стаў сапраўдным самотнікам. А была ж у творчым лёсе Васіля Сёмухі яшчэ адна кніга, якая змяніла яго жыццё. У 1967 годзе ён, нядаўні выпускнік рамана-германскага аддзялення Маскоўскага ўніверсітэта, пераклаў «Фаўста» Гётэ і прынёс у Белдзяржвыдавецтва. Там адмовіліся ад выдання, спаслаўшыся на недахоп сродкаў.

І маладому перакладчыку прыйшла ў галаву ідэя папрасіць грошай на выданне ў Германіі – як кампенсацыю за забітых у вайну сваякоў, за спаленую сядзібу – хутар Ясянец на Пружаншчыне. Сёмуха звярнуўся з адпаведным запытам у Міністэрства замежных спраў БССР, дзе яго ініцыятыва, вядома ж, не знайшла падтрымкі. Мала таго, у хуткім часе палітычна ніцавокага перакладчыка выклікалі на прапясочку ў ЦК КПБ, пасля чаго звольнілі з працы і выключылі з Саюза пісьменнікаў з фармулёўкай «за сувязь з замежжам і спробу надрукаваць «Фаўста» на Захадзе».

Некалькі гадоў Сёмуха быў вымушаны перабівацца выпадковымі заробкамі, працаваць на Трактарным заводзе, носячы кляймо антысаветчыка. У БССР ён стаў невыязным, хоць па-ранейшаму «меў сувязь» з замежжам – перакладаў і немцаў, і палякаў, і латышоў. Ужо ў час перабудовы пераклаў вершы юнага Карла Маркса. Пераклад накіравалі ў маскоўскі Інстытут марксізму-ленінізму – без ягонай візы кніга выйсці не магла. Інстытуцкі функцыянер учытаўся ў рукапіс: «*У формулах – лічбаў, значкоў стракацізна, / І розум наш – прыклад лічыльнае працы: / Калі бог ёсць кропка – дык бог не ёсць прызма, / Калі дагары вы – дык вам не сядзіцца на с…*».

«І вы хочаце сказаць, што гэту дурноту напісаў вялікі Карл Маркс?!» – прагучала суровае пытанне. Давялося перакладчыку дастаць і паказаць арыгінал, прадбачліва прыхоплены з Мінска...

Перакладаючы правераную часам класіку, Васіль Сёмуха ніколі не пазбягаў і драматычнай сучаснасці. Публічна выступаў у абарону Васіля Быкава, калі бессаромнае БТ назвала яго «літаратурным паліцаем», хадзіў на пікеты падчас закрыцця Гуманітарнага ліцэя і захопу ўладай Дома літаратара. Але мітынговым пустаслоўем не займаўся. Бярог час для сваёй галернай перакладчыцкай працы.

Тэксты Сёмухі – гэта як адамкнутая скарбніца мовы, настолькі яна ў яго нязвыкла-свежая, пазнавальна-аўтарская. З адметных слоў можна цэлы слоўнічак скласці: «ён *шчасціўся* з духу свайго і *адлюдненасці*»; «хадзіць у пурпурах *шаноўлі*»; «*любацерпцы* і *любаснікі* ісціны»; «*людовішча* на пляцы»; «*мольбіты* ўсталі з каленяў»; «вусны *знямовіліся*»… Вылучаных слоў няма ў сучасных нарматыўных слоўніках, але ў каго язык павернецца сказаць, што ім не месца ў беларускай мове?

Год таму Васіля Сяргеевіча не стала. Ён меў прозвішча як свята, што сімвалізуе вясновае абнаўленне, і сваімі кнігамі стварыў непрамінальнае свята слова ў будзённым календары айчыннай літаратуры. Святочныя дні хутка мінаюць, а з намі, чытачамі, Сёмуха круглы год.

РЭГІЁН

## Вучацца без выкладчыкаў

У Гродзенскім медыцынскім каледжы з'явілася адмысловае сімуляцыйнае абсталяванне, дзякуючы якому студэнты могуць даводзіць да аўтаматызму каля 130 медыцынскіх маніпуляцый без удзелу выкладчыкаў.

Сістэма працуе проста: спачатку студэнты ўважліва глядзяць ролік на сімулятары, а потым паўтараюць ўбачанае. Усе дзеянні студэнта запісваюцца на відэакамеры – зверху і збоку. Выкладчык можа сачыць за выкананнем задання анлайн альбо прагледзець яго пазней у запісе.

Новае абсталяванне каштуе 316 тысяч долараў. Яго медкаледж атрымаў па праграме мадэрнізацыі сістэмы аховы здароўя, якая фінансуецца Сусветным банкам.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# Салігорскія футбалісты пайшлі ў забой

*Незвычайна прайшло ўзнагароджанне бронзавага прызёра чэмпіянату Беларусі па футболе – салігорскага «Шахцёра».*

Кіраўнік Федэрацыі футбола Беларусі **Уладзімір Базанаў** *(на фота – справа)* уручыў футбалістам медалі… у шахце.

*«Так ужо павялося, што ўзнагароды ігракі другі раз запар атрымліваюць пад зямлёй – у адной з шахт «Беларуськалія»,* – паведаміла прэс-служба клуба. – *Напрыклад, медалі 2017 года ўручаліся на 5-м рудніку, а для ўзнагарод папярэдняга чэмпіянату была абрана іншая пляцоўка – 1-е рудаўпраўленне».*



Вядома, што напярэдадні футбалісты прайшлі інструктаж, атрымалі спецвопратку, а таксама спецыяльныя прыборы, якія дазваляюць знаходзіцца некалькі гадзін у бескіслародным асяроддзі. Іх выдаюць кожнаму, хто спускаецца пад зямлю.

Давялося рабіць аж два рэйсы, каб даставіць усю каманду разам з кіраўніком Федэрацыі футбола на глыбіню 420 метраў. Затым на некалькіх «вавёрках» (аўтамабілі, якія перавозяць шахцёраў) ігракі і трэнеры пераадолелі каля чатырох кіламетраў да аднаго з забояў.

*«У забоі паказалі, як працуюць людзі, якія здабываюць руду,* – дадаюць у клубе. – *Працуючы камбайн, пыл і неверагодны шум – хлопцы, няхай і на некалькі хвілін, але адчулі спецыфіку працы пад зямлёй. Там жа – у забоі – сербскі легіянер Нікола Анціч «здабыў» рукамі і бронзавыя медалі, якія былі прысыпаны пародай.*

*А ўручалі іх ужо у спецлячэбніцы – месцы, куды тысячы людзей штогод адпраўляюцца, каб вылечыць захворванні органаў дыхання».*

Як жартуюць некаторыя балельшчыкі на форумах: добра, што гродзенскі «Нёман» не стаў прызёрам першынства, а то медалі футбалістам маглі б уручыць у рацэ. Надвор'е ў гэтым годзе дазваляе…

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЗНАЙ НАШИХ!

# «Интерес к произведениям Светланы Алексиевич держится на очень высоком уровне»

*Главный редактор московского издательства «Время» Борис Пастернак рассказал, что намерен издать книги пяти белорусских авторов.*

– Я очень доволен, что в число финалистов премии «Большая книга» прошел **Ольгерд Бахаревич** с романом «Собаки Европы», – *рассказывает про белорусов Борис Пастернак в интервью labirint.ru.* – Мне кажется, у этой книги будет долгая и интересная жизнь.

Роман заметили критики, кто-то даже писал, что он, как астероид, прилетел к нам из другой галактики. И это правда. Мне кажется, сегодняшний русский читатель, который пошел на поводу у авторов массовой литературы, легко читаемой, чуть подрастерял навык чтения сложных книг. Мне это категорически не нравится. А «Собаки Европы» книга сложная. Это Большая книга в самом прямом значении этого слова, а не только толстая. Думаю, что своим присутствием она украсила бы список лауреатов премии этого года. Очень сожалею, что она не вошла в число победителей, но думаю, что это обычная ошибка, коих случается немало в любой премиальной среде. Даже лучшие авторы не всегда получают награды.

Я по-прежнему рассчитываю на наших постоянных авторов. В первую очередь это **Светлана Алексиевич,** и то, что вдруг резко подпрыгнули ее тиражи в связи с выходом сериала «Чернобыль», который стал очень популярным, – это свидетельство того, что потенциал ее книг далеко не исчерпан. Мы к ним еще не раз будем возвращаться. Я знаю, что сейчас готовятся съемки сериала «У войны не женское лицо», а значит, нам надо приготовиться к резкому подъему тиражей этой книги. Да и всех остальных ее книг. Они ведь «в цепочке» и тянут друг друга. Я очень рад, что интерес к произведениям Светланы держится на очень высоком уровне.

Хотел бы упомянуть и наших постоянных авторов **Андрея Жвалевского и Евгению Пастернак**. Они выпустили очередную книжку для подростков, она называется «Я бы на твоем месте». Книга стартовала резко, у нее прекрасные показатели продаж, и, самое главное, у нее прекрасная читательская аудитория, причем давно сложившаяся. Это аудитория, которую они, по сути, сами для себя сформировали. Она их любит и ждет их книги.

Рассчитываем мы и на **Сашу Филипенко**: выпускается уже пятая его книжка. Она выходила в двенадцатом номере журнала «Знамя», а две главы из нее уже опубликовал журнал «Эсквайр». И то, что такие разные по направлениям и читательским аудиториям издания, как «Знамя» и «Эсквайр», одновременно берутся за одну книгу, а мы следом выпускаем книжку, тоже, наверное, о многом говорит. Это современный, боюсь слова «модный», достаточно популярный автор.

Вернусь на один шаг к его предыдущей книжке «Красный крест». Это книга о взаимодействии советского руководства с Международным Комитетом Красного Креста – благотворительной международной организацией со штаб-квартирой в Женеве. Книга эта переведена уже на девять языков. На французский, немецкий, чешский, хорватский… Видно, что Саша Филипенко попал в болевую точку. Сегодня чрезвычайно высок интерес к предвоенным, военным и послевоенным отношениям… даже со стороны президентов. Следующая его книжка, та, которая находится в производстве, называется «Возвращение в Острог». Это книга о забытом богом небольшом городке, где градообразующим предприятием является тюрьма. Мне кажется, Саша справился с этой сложной темой.

**Галина РУТ.**

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



Елена МОЛОЧКО

# О братании с российской попсой

Несколько дней назад поздравительной телеграммы от Александра Лукашенко удостоился российский композитор Игорь Николаев, автор популярных хитов. Не проходит месяца, чтобы Александр Григорьевич не отметил своим телеграммным вниманием кого-нибудь из артистов российского шоу-биза или российского кино. В декабре, помнится, был Михаил Боярский, осенью Валерий Леонтьев, актер Александр Михайлов, а еще раньше певица Валерия… Российские юбиляры идут рядами и шеренгами – страна-то огромная. Им пачками летят телеграммы из Минска. В прошлом году даже гражданин РФ Жерар Депардье получил поздравление. Просто диву даешься, как широка душа у человека Лукашенко.

Впрочем, нет, не у человека – у президента! И это кардинально меняет дело и послевкусие от этих телеграмм. По крайней мере, у нас, белорусов.

Человек Александр Лукашенко имеет право на личные предпочтения в искусстве: вот любит он слушать российскую эстраду, а белорусскую оперу, скажем, ни в какую. И на здоровье! Но президент Беларуси Лукашенко, мне кажется, сильно ограничен высоким положением, чтобы регулярно демонстрировать свои вкусы и чувства к деятелям искусства другого государства. В этом вопросе должен быть очень строгий отбор. Ведь всякий раз, подписывая поздравительную телеграмму, он выступает от имени суверенного народа Беларуси.

Поэтому президенту нельзя мельчить. Это как минимум. Потому что перебор… Явный перебор! В России артистов со званием «народный» сотни, а возможно, тысячи. Но одно дело – поздравить россиянку Александру Пахмутову, глыбу в композиторском искусстве, и совсем другое – Игоря Николаева. Кто спорит, он популярный уже не одно десятилетие музыкант. Его песни радуют ухо, а богатая шевелюра услаждает взор. Но уровень президента – это, по-моему, несколько другие персоны: живые классики, выдающиеся люди, сформировавшие эпоху. Тогда и телеграмма из маленькой Беларуси в большую Россию – заметное событие. А когда поздравления от нас сыплются «как лайки на белые найки», то какова их цена? Пух от одуванчиков… Потому что нет строгого ранжира. Без него в большой политике нельзя. А уж большое искусство тем более без него не обходится.

Есть и такой нюанс. Наших-то, белорусских, артистов президент России не поздравляет. Я помню, что только могучий Игорь Лученок удостоился однажды от Путина поздравительной телеграммы. Показательный пример. А Александр Лукашенко поздравляет и поздравляет, образно говоря, перед каждым певцом дробным маком рассыпается в комплиментах. Он будто хочет понравиться. Не знаю, насколько искренне. Но что это бросается в глаза – так это очевидно.

Впрочем, читается и скрытый смысл регулярных белорусских президентских «реверансов». Лукашенко хочется распространить свою богатую харизму на «наш» российский народ – на соседей. Это любимая, как можно заметить, фишка Александра Григорьевича: мы – ваши, вы – наши. Родня… Прямо запутаешься. А легче всего это демонстрировать, регулярно признаваясь: «У нас же с вами общие кумиры! И в прошлом, и в настоящем. Будет так и в будущем». Такой незамысловатый маркер. И это, безусловно, действует. Да что на простой народ, некоторые известные российские политологи искренне считают, что Беларусь спит и видит себя в составе их страны.

Не спит и не видит. А потому хочется сказать Александру Григорьевичу: не вводите соседей в заблуждение, а нас, соотечественников, в конфуз постоянным братанием с российской попсой.

ЛЮСТЭРКА

# На ніве беларушчыны…

*Касцёл Святога Сымона і Святой Алены з'яўляецца візітнай карткай нашай сталіцы. З 1990 года ён стаў не толькі духоўным, але і культурным цэнтрам Мінска. Якія праекты рэалізуе касцёл сёння?*

З 3 мая 2002 года ў касцёле Святога Сымона і Святой Алены зберагаецца паўнамаштабная **копія Святой Турынскай Плашчаніцы**. Перададзена яна была з Турына (Італія) як «сімвал сяброўства, місіі міру». Мінская копія Плашчаніцы занесена ў дзяржаўны рэестр і з'яўляецца дзяржаўнай каштоўнасцю. Аддаць пашану і пакланіцца святой рэліквіі можна падчас **экскурсіі «Гісторыя і сучаснасць Чырвонага касцёла»**, якая амаль штодзённа праводзіцца ў касцёле Святога Сымона і Святой Алены.

**Бібліятэка пры Чырвоным касцёле** была заснавана яшчэ ў 1908 годзе і называлася «Міцкевічаўка». У 1923-м касцёл быў разрабаваны, і дакладных звестак пра яе лёс няма. У 1990-я гады пачалося адраджэнне Чырвонага касцёла. Па ініцыятыве ксяндза-пробашча Уладзіслава Завальнюка ў 1998 годзе бібліятэка была адноўлена. Адкрыццё яе было прысвечана 200-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча. Фонд польскай класічнай літаратуры (у які ўвайшлі і творы Адама Міцкевіча) быў адноўлены пры дапамозе Міністэрства культуры Польшчы і прывезены з Беластока. Зараз кніжны фонд бібліятэкі імя Адама Міцкевіча налічвае каля 40.000 асобнікаў. Гэта, як правіла, творы Адама




Міцкевіча, беларускіх, польскіх і рускіх класікаў, хрысціянская літаратура, кнігі знакамітых тэолагаў, арыгінальныя мастацкія творы, даведачныя выданні, энцыклапедыі і слоўнікі. Асаблівую ўвагу заслугоўвае збор твораў Папы Рымскага Яна Паўла II і кніг аб ім. Таксама бібліятэцы пашчасціла здабыць шэраг рэдкіх выданняў XVIII–XIX стагоддзяў. У бібліятэцы праводзяцца канферэнцыі, святы, вечарыны, ранішнікі для дзяцей. Кожны год, пачынаючы з 2003 года, калі быў устаноўлены помнік Адаму Міцкевічу ў аднайменным скверы ў Мінску, бібліятэка арганізоўвае ў дзень нараджэння паэта 24 снежня калядныя сустрэчы.

У Чырвоным касцёле ёсць тэатральная зала, дзе знаходзіцца стацыянарная сцэнічная паляцоўка тэатра «Зніч»**, які ўжо больш за чвэрць веку** працуе ў жанры монаспектакля. Увесь гэты час «Зніч» папулярызуе лепшыя ўзоры беларускай і сусветнай літаратурнай спадчыны сродкамі сцэнічнага мастацтва, служыць захаванню сапраўднага беларускага слова. Усе спектаклі тэатра ідуць выключна на беларускай мове – гэта крэда тэатра і яго заснавальніка і нязменнага мастацкага кіраўніка Галіны Дзягілевай. Тэатр – неаднаразовы ўдзельнік і прызёр міжнародных тэатральных фестываляў. Калектыў гастралюе па Беларусі і па-за яе межамі: у Расіі, ва Украіне, Польшчы, Латвіі, Эстоніі, Літве, Германіі, ЗША. Сёння ў рэпертуары тэатра больш за 20 спектакляў, пастаўленых паводле твораў беларускай і сусветнай класікі.

У Белай зале Чырвонага касцёла на працягу года дэманструюцца творчыя выставы мастакоў, фатографаў. Толькі ў снежні закончылася выстава творчых праектаў архітэктара Аляксандра Базевіча, як ужо ладзіцца новая выстава фатографа Ірэны Гудзіеўскай «Сімвалы Беларусі».

Літургічны хор «Голас душы» касцёла быў заснаваны ў 1989 годзе па задуме ксяндза-пробашча Уладзіслава. Напачатку хор быў жаночы – удзельніцамі хору з'яўляліся студэнткі розных навучальных устаноў Мінска. Сёння гэта змешаны хор, большасць удзельнікаў якога маюць музычную адукацыю, а некаторыя з'яўляюцца прафесійнымі вакалістамі. Апрача ўдзелу ў літургіі хор «Голас душы» вядзе актыўнае духоўнае жыццё, удзельнічае ў рэкалекцыях, пілігрымках, духоўных і свецкіх творчых сустрэчах. Дзякуючы гэтаму, ён не толькі развіваецца на парафіяльным узроўні, але і з'яўляецца пастаянным удзельнікам канцэртаў, міжнародных конкурсаў і фестываляў у Беларусі і за яе межамі. Калектыў гастраляваў з канцэртамі ў Латвіі, Польшчы, Літве, Украіне, а таксама ў розных гарадах і вёсках Беларусі, на самых значных пляцоўках Мінска – у Вялікай і Малой залах Белдзяржфілармоніі, у канцэртнай зале «Мінск», на Малой сцэне Палаца Рэспублікі…

У Чырвоным касцёле шмат гадоў дзейнічаюць розныя каталіцкія рухі і рэлігійныя суполкі.

З 21 снежня 2010 года пры касцёле Св.Сымона і Св.Алены дзейнічае Грамадскае аб'яднанне «Таварыства Медыцынскай Палоніі» ў Мінску і Мінскай вобласці. Медыкі розных спецыяльнасцяў праводзяць на грамадскіх пачатках медыцынскія кансультацыі для прыхаджан, бяруць актыўны ўдзел у правядзенні навуковых даследаванняў падчас хрысціянскіх пастоў па пытаннях дыетычнага харчавання і «чыстага посту». Каталікі-медыкі практыкуюць выязныя кансультацыі ў іншых каталіцкіх прыходах (Будслаў, Рубяжэвічы).

У касцёле паспяхова дзейнічае цэнтр «Пілігрым». На працягу года ладзяцца розныя пілігрымкі. Касцёл вядзе і актыўную выдавецкую дзейнасць. У 2019 годзе выйшла ў друк кніга «Кальварыя. Што захавала памяць» (аўтары – ксёндз-канонік Уладзіслаў Завальнюк і Ала Сакалоўская), кнігі Уладзіслава Завальнюка «Апакаліпсіс і твой апошні дзень», «Да Бога – на роднай мове», «Францыск Скарына – духоўны светач Беларусі».

**Маргарыта КАЛЮЖНАЯ.**

З НАГОДЫ

# Якое блюзнерства! Які цынізм…



*Нядаўна прайшла інфармацыя пра тое, што адыёзны расійскі палітык Уладзімір Жырыноўскі, запусціўшы прамы эфір у сваім афіцыйным акаўнце ў Instagram, раздаваў тысячныя і пяцітысячныя купюры на Краснай плошчы, выкрыкваючы: «Дзеці, інваліды, хто яшчэ? Сіроты, прыгонныя, халопы!»*

*Якое блюзнерства! Які цынізм! У якую паласу падзення ўваходзіць Расія! З аднаго боку, звышнахабнасць, звышподласць розных жырыноўскіх, якія бесяцца ад багаццяў, лічаць сябе недатыкальнай кастай, а з другога – абяздоленыя, без уласнага гонару простыя людзі, якіх тыя, хто наверсе, і за людзей не прызнаюць, абзываючы халопамі, кідаючы ім пад ногі крошкі з барскага стала.*

*Не, добра, што ў свой час дэпутаты, якія ўваходзілі ў Фракцыю БНФ Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, далі выспятка таму ж У.Жырыноўскаму (на здымку), які хацеў усталяваць у Мінску свае парадкі. Вось як пра той выпадак успамінае тагачасны дэпутат Сяргей Навумчык.*

Сяргей НАВУМЧЫК

# Як мы спусцілі з лесвіцы Жырыноўскага

*Жырыноўскі – не птушка, хаця лётаць любіць. Па Расіі лётае персанальнымі рэйсамі, пераважна прыватнымі самалётамі. «Сокалы Жырыноўскага» – так называюць сябе актывісты Ліберальна-дэмакратычнай партыі Расіі. «Сокал Жырыноўскага» – такая была назва газеты ЛДПР. І ў гербе партыі Жырыноўскага – сокал, які распасцёр крылы. Словам, птушынае племя, «дети большого полета», як пелася ў савецкай песні.*

*Але сам Жырыноўскі ў Беларусі ў снежні 1991-га ляцеў не ўверх, а… уніз. Праз дзве-тры прыступкі лесвіцы, не паспяваючы чапляцца рукамі за гранітныя сцены Дома ўрада.*

У сярэдзіне снежня 1991 года ў СМІ прайшла інфармацыя, што Жырыноўскі едзе ў Беларусь.

На абшарах былога СССР Жырыноўскі ў той час быў ужо добра вядомай адыёзнай фігурай. У чэрвені 1991-га ён балатаваўся на пасаду прэзідэнта Расіі, у жніўні адкрыта падтрымаў ГКЧП. У палітыцы ён паводзіў сябе як блазан, пры гэтым выказваў імперскія, шавіністычныя ідэі.

Пазней палітолагі заўважаць, што Жырыноўскі выказваў тое, што не маглі сказаць услых крамлёўскія кіраўнікі. З часам ён абярэцца ў Дзяржаўную думу Расіі і надоўга зойме там пасаду віцэ-спікера.

Увогуле, вопыт вывучэння палітычных працэсаў (а часам і непасрэдны ўдзел у палітыцы) прывёў да цікавага назірання за дзеяннем мадэлі, якую выкарыстоўваюць у тым ліку і спецслужбы. Вельмі часта нейкія сумніўныя ідэі ўкідваюцца ў грамадства блазнамі – і спачатку, натуральна, успрымаюцца большасцю як ідыятызм ці ў лепшым выпадку абсурд. Але іх пастаянна трымаюць у інфармацыйным полі, пра іх пішуць журналісты (і некаторыя журналісты – вельмі настойліва пішуць), іх пачынаюць абмяркоўваць палітолагі (і некаторыя палітолагі – вельмі настойліва абмяркоўваюць). У выніку пэўная, а часам і значная, частка грамадства пачынае ўспрымаць гэтыя ідэі.

Візіт Жырыноўскага ў Мінск шырока рэкламаваўся, анансавалася і ягонае выступленне па Беларускім тэлебачанні ў прамым эфіры.

Мы, дэпутаты Вярхоўнага Савета, з цяжкасцю маглі дамагчыся прадастаўлення эфіру – Жырыноўскаму ж была дадзена больш як гадзіна ў «прайм-тайм» і ў самай папулярнай у той час праграме «Крок» (такое спрыянне шавіністу потым стала зразумелым – галоўным рэдактарам рэдакцыі маладзёжных праграм працавала Ніна Чайка, вядомая сваімі праімперскімі, прарасійскімі перакананнямі, тая самая Чайка, якая праз дзесяць гадоў узначаліць часопіс «Нёман» і ў апошнія месяцы жыцця Васіля Быкава надрукуе гнюсны тэкст з абразамі ў адрас Васіля Уладзіміравіча).

Я звярнуўся да генеральнага пракурора Беларусі Мікалая Ігнатовіча з патрабаваннем не дазволіць выступленні Жырыноўскага ў Мінску, а Алег Трусаў і Уладзімір Заблоцкі накіравалі старшыні ВС Шушкевічу запыт: хто запрасіў Жырыноўскага ў Беларусь, хто арганізаваў ягонае запланаванае выступленне ў перадачы «Крок» дзяржаўнага тэлебачання і хто будзе аплачваць гэтае выступленне? Шушкевіч на запыт не адказаў.

## Гілевіч: вяж Жырыноўскага моцна спрацуе на палітычную дэстабілізацыю ў рэспубліцы

22 снежня на сесіі ВС Шушкевіч быў вымушаны зачытаць яшчэ адзін запыт. Цытую стэнаграму.

«***Старшыня:*** *– Шаноўныя народныя дэпутаты, прашу займаць свае месцы. Шаноўныя дэпутаты! Многія дэпутаты настойваюць, каб была зачытана адна запіска: «З друку стала вядома, што ў Мінск прыязджае і атрымлівае найбольшую ў Беларусі залу для выступлення фашыстоўскі дэмагог Жырыноўскі. Няма сумнення, што яго вяж моцна спрацуе на палітычную дэстабілізацыю ў рэспубліцы. Думаю, што ўрад Беларусі павінен прыняць захады, каб не дапусціць гэтага. Я ўжо не кажу пра маральны аспект справы. Прагрэсіўнай грамадскасцю Беларусі агітвізіт няпрошанага госця будзе ўспрыняты як абраза для нашай нацыянальнай годнасці. Ніл Гілевіч, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь».*

*Я як чалавек падзяляю думку Ніла Сямёнавіча. Але... Гэта камерцыйнае мерапрыемства, за ўласны кошт альбо за кошт тых арганізацый, якія ёсць на Беларусі, набываецца зала, і там выступаюць... Тут могуць толькі праваахоўныя органы, калі яны знаходзяць нейкія парушэнні, альбо фінансавыя органы... забараніць. (Шум у зале.) Дык самую вялікую аўдыторыю купляюць за вялікія грошы. Я не бачу тут парушэння закона. Шаноўныя народныя дэпутаты! Калі ёсць парушэнне законаў, у нас ёсць праваахоўныя органы, ёсць гарадскія ўлады. І, мне здаецца, гэта не тая асоба, каб мець такі гонар, каб абмяркоўвалі яе паводзіны на Вярхоўным Савеце. Усё».*

Аднак Шушкевічу не ўдалося скамечыць тэму Жырыноўскага – яе зноў узняў Яўген Цумараў.

«***Яўген Цумараў:*** *– Сапраўды, пытанне пра Жырыноўскага не варта таго, каб два словы тут гаварыць, але... Справа ў тым, што хацелася б, каб старшыня Вярхоўнага Савета прыняў гэта да ведама і даручыў адпаведным органам... Справа ў тым, што гэты чалавек заклікае, у парушэнне нашай Канстытуцыі (гэта відаць з публікацый і газеты «Семь дней», і розных інтэрв'ю)... Ён фактычна не прызнае суверэнітэту рэспублікі і заклікае ліквідаваць рэспубліку. Трэба даручыць адпаведным органам пракантраляваць яго выступленні.*

***Станіслаў Шушкевіч:*** *– Я прашу вас не даваць мне парады, якія не трэба даваць. Таму што гэта пытанне вырашаецца законным шляхам на законных падставах. І тое, пра што мне сёння напісалі, я ведаў 10 дзён назад, і адпаведныя захады былі прыняты».*

Апошняя фраза Шушкевіча нас здзівіла. Аказваецца, ён ведаў пра прыезд Жырыноўскага і ніяк не запярэчыў гэтаму візіту (не хацелася думаць, што «адпаведныя захады», пра якія ўзгадаў спікер, – гэта рэкламныя інтэрв'ю ў дзяржаўных газетах. Інтэрв'ю, у якіх ставілася пад сумненне існаванне Беларусі як незалежнай дзяржавы).

## Голубеў: Жырыноўскі выступае супраць беларускай дзяржаўнасці, скарыстоўваючы беларускія СМІ

На наступны дзень, 23 снежня, з запытам на сесіі звярнуўся дэпутат Апазіцыі БНФ Валянцін Голубеў. Ізноў цытую стэнаграму.

«***Валянцін Голубеў:*** *– Шаноўныя народныя дэпутаты! Я ўчора не змог прысутнічаць на сесіі і таму вельмі ўважліва вечарам глядзеў тэлевізар, каб ведаць, што ў нас было і што рабіць мне сёння. Перад гэтым я паглядзеў перадачу «Крок», дзе выступаў спадар Жырыноўскі, які гаварыў пра тое, што наша дзяржава не можа быць незалежнай. Пра тое, што гэта будзе толькі губерня яго імперыі. Абражаў наш парламент і старшыню Вярхоўнага Савета, заяўляючы, што, прыйшоўшы да ўлады, ён пасадзіць яго на 15 гадоў. І пасля гэтага я паглядзеў тое, што адбылося ў нас у Вярхоўным Савеце. Як наш Вярхоўны Савет не хацеў разглядаць гэта пытанне. Дарэчы, я хачу сказаць і пра наш Камітэт Дзяржтэлерадыё. Калі перад рэферэндумам аб захаванні Саюза ССР народны дэпутат Голубеў змог сказаць у праграме «Крок», што ён будзе галасаваць супраць гэтага пытання і заклікае сваіх выбаршчыкаў зрабіць так, то тыя людзі, якія вялі «Крок», былі адлучаны ад эфіру на тры месяцы. Што робіцца зараз? Хто такі Жырыноўскі на Беларусі? Чаму мы маўчым, калі чалавеку, які выступае супраць незалежнасці Беларусі, мы не даём ніякай ацэнкі?*

***Станіслаў Шушкевіч:*** *– Шаноўныя народныя дэпутаты! Я хачу яшчэ раз сказаць, што калі Беларускі Народны Фронт патрабуе маёй адстаўкі, патрабуе адстаўкі ўрада ў сродках масавай інфармацыі, то мы аналізуем гэтыя пытанні – чаму, што і як. Цяпер далей. Калі тут ёсць парушэнне закона альбо ёсць пэўная пазіцыя старшыні Дзяржтэлерадыё, мы можам гэта пытанне разгледзець тут. Але разглядаць пытанне аб тым, хто і што думае, – гэта не справа Вярхоўнага Савета. Таму я прашу прагаласаваць за тое, каб перайсці да пункта 1«к» парадку дня. Хто за гэта, прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся? Рашэнне прынята. Я запрашаю на трыбуну народнага дэпутата Пісарэвіча... (Шум у зале.)».*

Прыпыню цытаванне – тут я пайшоў да мікрафона і запатрабаваў вярнуцца да пытання аб Жырыноўскім, паколькі дзяржаўныя СМІ даюць трыбуну чалавеку, які выступае супраць існавання дзяржавы. Але Шушкевіч адключыў мой мікрафон.

Ізноў стэнаграма.

«***Станіслаў Шушкевіч:*** *– Паважаны Сяргей Іосіфавіч, калі вы па Радыё Свабода гаварылі такія, прабачце, рэчы, якія слухаць нельга, якія не адпавядаюць пазіцыі парламента, вас ніхто тут не абмяркоўваў. (Апладысменты.) У нас межы адкрытыя. І грамадзяне Расіі, і інфармацыя з Расіі ў адпаведнасці з ратыфікаваным пагадненнем могуць сюды прыходзіць. Уносьце прапановы. (Шум у зале.) Я яшчэ раз пастаўлю на галасаванне пытанне. Хто за тое, каб працаваць па парадку дня, прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся? Рашэнне прынята. Калі ласка, народны дэпутат Пісарэвіч, я вас запрашаю на трыбуну.*

***Сцяпан Пісарэвіч:*** *– Паважаныя народныя дэпутаты! У нас застаўся ў законе аб падатку на паліва адзін пункт...»*

Рэпліка Шушкевіча ў мой бок выклікала абурэнне Валянціна Голубева, які заявіў, што адна справа – дэпутат, які мае права выказаць сваю нязгоду з пазіцыяй парламенцкай большасці, і зусім іншая – грамадзянін суседняй краіны, які выступае за ліквідацыю беларускай дзяржавы, выкарыстоўваючы СМІ гэтай дзяржавы.

Але Голубеў не дагаварыў – Шушкевіч адключыў мікрафон і яму.

## «Подонок ты мне, а не товарищ, паскуда такая!»

Удзень 23 снежня я пачуў эмацыйную гутарку каля міліцэйскага паста на другім паверсе Дома ўрада. Аказалася, Жырыноўскі спрабаваў прарвацца да кабінета Шушкевіча, а міліцыянт яго не пускаў. Не дазвалялі прайсці Жырыноўскаму і дэпутаты Лявон Дзейка і Мікола Маркевіч.

Далейшы наш дыялог цытую па газетнай публікацыі.

*«Вы маеце афіцыйныя запросіны да Шушкевіча?» – пацікавіўся Сяргей Навумчык. «Спадзяюся атрымаць іх, – упэўнена адказаў Уладзімір Вольфавіч. – Я з Шушкевічам размаўляў на з'ездзе ў Крамлі, у мяне з ім нармальныя адносіны. Я прыехаў да яго. Там, у Маскве, мне можна з ім сумаўляцца. А тут не? Зараз перапынак, і я хачу з ім паразмаўляць пару хвілін. Дэмакраты горш за камуністаў, яны зрабілі так, што нікуды не пройдзеш… Мне не патрэбна сесія, я не прашуся ў залу пасяджэнняў, яны спужаюцца, што я выступлю. Яны людзі з мінулага, чалавека з будучыні яны баяцца»* («Знамя юности», 2 лютага 1992 г.).

Я прапанаваў Жырыноўскаму пакінуць будынак, але ён нахабна імкнуўся прарвацца да кабінета Шушкевіча.

Прыйшлося ўзяць яго за грудкі і выпіхнуць за дзверы калідора – туды, дзе была лесвіца. Жырыноўскі выкруціўся і паспрабаваў ізноў праціснуцца ў калідор.

Тут з'явіўся Пётра Садоўскі, яшчэ раней па тэлефоне выкліканы міліцыянтам.

Член Прэзідыума Вярхоўнага Савета, старшыня Камісіі ВС па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях, Пётра Вікенцьевіч Садоўскі павёў сябе гэтак, як і павінен быў паводзіць сябе член Прэзідыума Вярхоўнага Савета, старшыня Камісіі ВС па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях у дачыненні да кіраўніка партыі суседняй краіны, хай і не вельмі яму сімпатычнага.

Будучы амбасадар Садоўскі дыпламатычна папрасіў Жырыноўскага пакінуць памяшканне, назваўшы яго нават словам «таварыш» – «таварыш Жырыноўскі!». Але ў адказ пачуў далёкую ад палітэсу лексіку.

«Подонок ты мне, а не товарищ, паскуда такая!» – выкрыкнуў Жырыноўскі.

Умомант у філолагу і палітыку прачнуўся былы курсант суvoraўскай вучэльні.

Садоўскі прымяніў прыём, які імгненна ўпячатаў Жырыноўскага ў дзверы.

Я зноў выштурхнуў няпрошанага маскоўскага госця ў калідор, на лесвіцу. І мы цяпер ужо ўдвух надалі целу лідара расійскай партыі такое паскарэнне, якое, паводле законаў фізікі, перанесла Жырыноўскага на некалькі метраў ніжэй.

Лесвіца ў Доме ўрада агібала ліфт, і таму нам давялося некалькі разоў паўтарыць працэдуру (для тых, хто ўбачыць у нашых дзеяннях парушэнне спартыўнай этыкі («два на аднаго»), скажу, што побач з Жырыноўскім быў кіраўнік ягонай партыйнай філіі, але ён жвавенька збягаў па лесвіцы сам).

Спусканне Жырыноўскага з лесвіцы працягвалася да першага паверха і суправаджалася ягонай лаянкай ды пагрозамі: так, мяне ён абяцаў «повесить на столбе и десять, нет, пятнадцать дней не позволять никому, даже жене, снимать со столба труп».

Міліцыянты на крыкі Жырыноўскага рэагавалі смехам.

Тут заўважу, што сістэма аховы Дома ўрада была вельмі ліберальная, калі не сказаць – мінімальная.

Так, аднойчы нейкая жанчына ў час пасяджэння ВС, трымаючы ў абедзвюх руках валізкі, прайшла па цэнтральным праходзе Авальнай залы і паклала перад ашаломленым Шушкевічам стосы нейкіх папер. Як выглядала, яна прыйшла «з вуліцы», яе не спынілі ні міліцыянты ля ўваходу ў будынак, ні супрацоўнікі КДБ ля дзвярэй Авальнай залы. Чырвоны ад гневу і сораму дэпутат Лавіцкі (у той момант – намеснік старшыні КДБ) узняўся з крэсла і пайшоў у фае рабіць разнос сваім падначаленым.

А аднойчы ў мой кабінет сакратара парламенцкай камісіі ў Доме ўрада прыйшоў нейкі наведвальнік, мужчына гадоў трыццаці пяці; у кабінеце якраз была мая жонка (яна працавала карэспандэнткай мінскай газеты «Добры вечар» і рабіла інтэрв'ю з дэпутатамі). Калі я выйшаў у суседні кабінет, наведвальнік дастаў нож, сказаў, што ён быў асуджаны, і пагражаў жонцы «пусціць кроў» ды «зарэзаць». На шчасце, нехта з супрацоўнікаў апарату зайшоў у кабінет, выклікаў міліцыянта, той вывеў наведвальніка з Дома ўрада – гэтым і скончылася. Інцыдэнт кіраўніцтва Вярхоўнага Савета ніяк не зацікавіў – не зарэзаў жа.

## Жырыноўскі клянчыць МАЗы. Па льготных коштах

Неўзабаве пасля таго, як мы з Садоўскім спусцілі Жырыноўскага з лесвіцы, нехта з супрацоўнікаў апарату ВС мне сказаў, што яго бачылі ў супрацьлеглым крыле Дома ўрада – там, дзе месціцца Саўмін. Справай адной хвіліны было перасекчы плошчу і даведацца ў «саўмінаўскага» міліцыянта, куды накіраваўся маскоўскі візіцёр. Аказалася, да віцэ-прэм'ера Косцікава.

Каб звычайнаму грамадзяніну Беларусі патрапіць на прыём да намесніка міністра, трэба было патраціць шмат высілкаў і часу, аўдыенцыя ж у віцэ-прэм'ера была ўвогуле справай нерэальнай (напрыклад, старшыня райвыканкама ў маёй выбарчай акрузе не змог патрапіць на прыём да віцэ-прэм'ера, пакуль не былі падключаны дэпутацкія магчымасці). Жырыноўскага ж прынялі адразу.

Сакратарка Косцікава пацвердзіла, што Жырыноўскі быў у віцэ-прэм'ера, але колькі хвілін таму сышоў. Памочнік спрабаваў не пусціць мяне ў кабінет – не атрымалася.

Віцэ-прэм'ер быў адзін.

– Чаму вы прынялі Жырыноўскага? Што ён у вас прасіў?

Косцікаў маўчаў. На стале перад ім ляжаў ліст з лагатыпам партыі Жырыноўскага.

– Дайце сюды гэтую паперу.

Косцікаў пачаў абурацца, аднак я ўзяў паперу са стала.

– Жырыноўскі выступае супраць беларускай дзяржаўнасці, а вы яго прымаеце як госця. Такіх гасцей трэба гнаць у шыю.

Косцікаў, відаць, так і не паспеў зразумець, што адбылося, – а праз некалькі хвілін дэпутаты Апазіцыі БНФ разглядалі «трафей». То быў зварот да генеральнага дырэктара МАЗа Лаўрыновіча *«с убедительной просьбой о выделении в этом году»* (апошнія два словы падкрэслены, а да канца года і заставалася ўсяго некалькі дзён. – **С.Н.**) *по старым ценам для нужд ЦК Либерально-демократической партии 6 (шести) грузовых автомобилей марки «МАЗ 64299». «Оплату гарантируем. Заранее благодарен – председатель партии В.Жириновский»,* – і подпіс.

Гэты ліст я пакінуў сабе як сувенір.

Жырыноўскі хацеў набыць дэфіцытныя аўтамабілі па старых коштах, у дзясяткі разоў ніжэйшых, чым тыя, што ўжо існавалі. Відавочна, гэта і было прадметам яго гутаркі з віцэ-прэм'ерам. Зразумела, тэлефонны званок з высокага саўмінаўскага кабінета мог вырашыць справу – але, вось жа, сарвалася.

У кулуарах сесіі да мяне падышоў міністр унутраных спраў генерал Уладзімір Ягораў:

– Мы цяпер правяраем, ці ёсць у ахоўнікаў Жырыноўскага зброя. Калі ёсць, іх дэпартуюць.

Мой зварот да генеральнага пракурора Мікалая Ігнатовіча меў станоўчы вынік. Гарадская пракуратура скасавала раней выдадзены намеснікам старшыні гарвыканкама дазвол на сустрэчу Жырыноўскага з жыхарамі Мінска ў Палацы спорту (зала – некалькі тысяч чалавек). Я накіраваў Ігнатовічу яшчэ адзін запыт – гэтым разам ужо адносна паводзін Жырыноўскага ў Мінску.

## «Дзяржава там, дзе моцныя войска і тайная паліцыя…»

Жырыноўскі быў абураны, і на прэс-канферэнцыі, распавёўшы пра свае крокі ў выпадку абрання яго прэзідэнтам, прайшоўся па аўтары гэтых радкоў:

*«Дэмакратыя магчыма толькі там, дзе моцная дзяржава. А моцная дзяржава там, дзе моцныя войска і тайная паліцыя… Трэба даць зразумець насельніцтву: калі будзе супраціў новаму законнаму рэжыму, ён будзе падаўлены… Я навяду парадак па ўсёй краіне. Без «варанкоў» і рэпрэсій. Цягам 2–3 месяцаў прылаўкі будуць напоўнены ўсім неабходным. Галодных, халодных і беспрацоўных у мяне не будзе* (тое ж самае, амаль слова ў слова, паўторыць Лукашэнка на выбарах 1994 года. – **С.Н.**). *Усе рэспублікі ліквідуюцца адным указам. Адна рэспубліка – Расійская Федэрацыя Дэмакратычная. Шушкевіч у вас будзе, Кебіч, свой гімн. Але заходняя мяжа гэтай дзяржавы будзе праходзіць па Бугу… Так, тэлебачанне гатовае? Дзяржаўнае тэлебачанне ў нас у асноўным антырускае. Нічога, давайце. Хай хлусяць, я за свабоду прэсы. Учора ваш парламент у асобе сакратара Камісіі па правах чалавека сыходзіў жоўцю. Прыгадаў мяне: як так?! Дапусцілі выступіць? Хто даў права? Гэта дзікунства! Дэпутат парламента павінен забяспечваць правы грамадзян на тэрыторыі рэспублікі, а ён ламае прававую структуру і за гэта атрымлівае грошы».*

## «…паводзіў сябе груба і абуральна, выказваў абразы і пагрозы»

Праз некалькі дзён я атрымаў афіцыйны адказ на свой запыт, падпісаны Генеральным пракурорам Мікалаем Ігнатовічам:

*«Паважаны Сяргей Іосіфавіч!*

*Ваш ліст аб неправамерных дзеяннях старшыні Ліберальна-дэмакратычнай партыі Жырыноўскага У.В. пракуратурай рэспублікі разгледжаны.*

*Устаноўлена, што 23.12.1991 Жырыноўскі, знаходзячыся ў будынку Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, уступіў у спрэчку з народнымі дэпутатамі, сярод якіх знаходзіліся і Вы. Пры гэтым Жырыноўскі паводзіў сябе груба і абуральна, выказваў абразы і пагрозы ў адрас народных дэпутатаў. У сувязі з гэтым на яго складзены адміністрацыйны пратакол у адпаведнасці з арт.156 КаАП РБ (дробнае хуліганства), які накіраваны на разгляд у народны суд.*

*Падстаў для ўзбуджэння супраць Жырыноўскага крымінальнай справы пракуратура рэспублікі не знаходзіць. У адпаведнасці з артыкуламі 189 і 202 КК РБ крымінальная адказнасць за пагрозу забойствам настае толькі ў выпадку, калі яна з'яўляецца рэальнай. Жырыноўскі сапраўды выказваў пагрозы ў Ваш адрас, аднак яны рэальнымі не з'яўляюцца.*

*Што датычыцца абразы народнага дэпутата Садоўскага П.В., дык гэтыя дзеянні Жырыноўскага, таксама як і пагрозы ў Ваш адрас, ахопліваюцца складам адміністрацыйнага парушэння, прадугледжанага арт.156 КаАП РБ. Дзеянні Жырыноўскага ў гэтай частцы нельга кваліфікаваць у адпаведнасці з арт.188 або 129 КК РБ, таму што да крымінальнай адказнасці можа быць прыцягнута толькі асоба, якая абразіла другую асобу непрыстойнымі словамі.*

*Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь М.І.Ігнатовіч».*

*(Заканчэнне на 8-й стар.)*

Народная Воля http://www.nv-online.info 21 СТУДЗЕНЯ 2020 г.

СВЯТА

# Вадохрышча ў Гомелі

Многія гамяльчане ішлі 19 студзеня да праваслаўных бажніц, каб адзначыць апошняе свята каляднага цыклу – Вадохрышча. Хрысціянская рэлігія звязвае Вадохрышча з хрышчэннем Ісуса Хрыста Янам Хрысціцелем на рацэ Іардан, калі людзям з'явіліся ўсе асобы Святой Тройцы.

…У галоўным храме Гомельскай епархіі, саборы Святых Пятра і Паўла, поўна людзей. Утварылася цэлая чарга па асвечаную ваду. Яе падвозяць сюды аўтацыстэрнамі. Змайстраваны адмысловы вадавод са шматлікімі кранамі, да якога прымацавана таблічка «Святая вада». Гараджане стаялі таксама з пластыкавым посудам у чарзе да капліцы, дзе ёсць свая свідравіна.

Каля адзінаццатай гадзіны архіепіскап Гомельскі і Жлобінскі Стэфан асвяціў «сожскую купальню». Ён заклікаў вернікаў шанаваць адзін аднаго, бо ніякія багацці ў вечным спачыне не прынадзяцца.

Нямала загартаваных гараджан у гэты дзень акунуліся ў раку Сож. Мужчыны, жанчыны і маладыя хлопцы адзін за адным спускаліся па ўсталяванай лесвіцы ў ваду, хрысціліся і з галавою акуналіся ў ваду – хто адзін, а хто і тры разы. Наверсе іх чакалі родныя і знаёмыя з вялікімі ручнікамі, цёплай вопраткай і гарачай гарбатай. Тут дзяжурылі машыны хуткай медыцынскай дапамогі і МНС.

38-гадовы Дзмітрый, які працуе будаўніком, сказаў, што імкнецца кожны год не працусціць гэтае свята: «Змываю ўсе грахі, якія назапасіліся за год. Акунешся ў ваду і адчуваеш сябе і здаравейшым, і памаладзелым».

Гамяльчанін Ілля прыйшоў да Сожа разам з бацькам Сяргеем. Ён не падзяляе думку праваслаўных іерархаў, што студзеньская купель толькі аддалена звязана з Хрышчэннем Хрыстовым.

– У нас такая традыцыя: у любое надвор'е акунацца ў Сож. Верым, што Бог дадае нам здароўя, – заўважыў Ілля.

Сямідзесяцігадовая жыхарка Гомеля Лідзія прыйшла на бераг Сожа з мужам. Аднак водную купель прымала толькі яна.

– Спачатку ў гэты дзень ідзём у царкву, молімся, набіраем святую ваду, каб яна дапамагала нам у жыцці, мацавала здароўе. А пасля я прымаю купель. Мужу такая працэдура супрацьпаказана.

Студзеньскую купель жыхары Гомеля прымалі па абодва берагі ракі Сож.

**Анатоль ЛІПСКІ.**
**Фота аўтара.**

ВІНШУЕМ!

# Узлёт Яны Ярмашэвіч

*Беларуская фрыстайлістка заваявала на этапе Кубка Еўропы сярод юніёрак у Швейцарыі бронзавы медаль, які можна прыраўняць да «золата».*

Для абывацеля дасягненне спартсменкі, магчыма, і не такое значнае. Юніёрскі этап Кубка свету, усяго толькі «бронза»… Але гэта на першы погляд. Не ўсе, напэўна, ведаюць, праз якія выпрабаванні давялося прайсці фрыстайлістцы напярэдадні.

Дзяўчынка пачала займацца спортам з трох гадоў. Спачатку была мастацкая гімнастыка, затым – акрабатыка, фрыстайл. У 13 гадоў Яна ўпершыню паехала з камандай на зборы ў Чэхію. Дэбютавала на юніёрскім чэмпіянаце свету і дарослым этапе Кубка свету, які праходзіў у Раўбічах.

Каля двух гадоў таму Яна пачала развучваць двухсальтавыя скачкі на трампліне комплексу «Фрыстайл». А далей было падзенне амаль з шасціметровай вышыні. На разгоне лыжына паехала ўбок, і спартсменка вылецела з трампліна. Можна сказаць, дзяўчынцы пашчасціла, што звалілася ў басейн аквапарку. Паўметра ў іншы бок – і трапіла б альбо на жалезную лесвіцу, альбо на кафельную плітку. Дарэчы, была ўзбуджана крымінальная справа па гэтым факце, але праз нейкі час яе закрылі.

У бальніцы высветлілася – у Яны двайны пералом нагі. Зрабілі аперацыю, але косці не зрасталіся. Амаль чатыры (!) месяцы спартсменка правяла на бальнічным ложку.

Пасля чаго – новая аперацыя, унутр косткі Яне ўставілі стрыжань. Падчас аперацыі Яна страціла шмат крыві, потым два дні знаходзілася ў рэанімацыі.

Затым была рэабілітацыя: ЛФК, праграванне, масаж, басейн, трэнажорная зала… Трэба было вучыцца хадзіць па-новаму.

*«Многія ў нас пыталіся: «Вы што, збіраецеся вярнуць Яну ў фрыстайл?»,* – кажа маці спартсменкі **Вольга Ярмашэвіч**. *– І калі чулі станоўчы адказ, то проста круцілі пальцам ля скроні. А верылі ў яе вяртанне толькі трэнеры, я і псіхолаг з Аксакаўшчыны.*

*Натуральна, у фрыстайле ёсць свае рызыкі. Аднойчы дачка прыязджае да мяне на працу, кажа: «Ты толькі не глядзі на мяне». А ў яе на ўвесь твар – крывавая «баявая афарбоўка». Гэта так няўдала прызямлілася тварам аб снег. Але ж калі не падаеш, то на веласіпедзе катацца не навучышся.*

*Раней мы пастаянна ездзілі ў Раўбічы, каб пабалець за дачку, а пасля спаборніцтваў я ў яе пыталася: «Табе не страшна?» Яна мне адказвала так: «Мама, ты нічога не разумееш. Я лятаю!» І гэтым было сказана ўсё. Таму я веру і ў дачку, і ў яе перамогі».*

Безумоўна, не кожны здольны прайсці праз такія выпрабаванні. Паваліцца, каб затым ізноў караскацца да новых вышынь. Яна знайшла ў сабе сілы гэта зрабіць. Таму яшчэ раз паўтаруся: «бронза» на юніёрскім этапе Кубка свету мае вельмі вялікую каштоўнасць у першую чаргу для самой Яны Ярмашэвіч. Веру, што будуць у яе і больш значныя перамогі!

**Алесь СІВЫ.**

ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

# Виктор Мартинович живет в отеле с дикими пчелами

*Белорусский писатель путешествует по Южной Азии.*

*«На Джамуне (одном из рукавов Брахмапутры) во время разливов образуются «чуры», или движущиеся острова,* – рассказывает Виктор об одной из удивительных встреч с местными жителями. *– Эти песчаные отмели, форма которых постоянно меняется, населяет миллион человек. Тут нет электричества, водопровода, люди пьют дождевую воду и промышляют разведением пресноводных крабов. Это одно из последних мест на земле, где дети в деревнях встречают иностранца криками «тэнкью», а не «вандолла». Они тянут поиграть с ними в кораблик, сделанный из выловленного в реке сланца.*

*У старика на груди – амулет. Как он объяснил, помогает ему от лихорадки. Он – продавец местной лавки, в которой рыбаки меняют заработанные гроши на рис, соль и перец. Старик угостил меня чаем и обиделся, когда я попробовал заплатить за него в 10 раз больше, чем он стоит, то есть 50 центов. «Ты не хочешь принимать у меня угощение потому, что я бедный?» – спросил он.*

*Мы все неслыханные богачи на фоне этих людей, спящих в самодельных хижинах из пальмовых листьев и бамбука. Мы забыли о том, что такое голод, наше «плохо» – пустое нытье по сравнению с их «плохо».*

*И всё же нигде в мире я не встречал таких счастливых людей. Они постоянно поют, по вечерам собираются в тени под навесом из листьев нипа и ведут долгие разговоры. Их женщины красивы, их дети не прекращают тебе улыбаться. Эти люди знают главный секрет мироздания: ни хороший дом, ни роскошная машина не принесут тебе счастья. Наша прекрасная цивилизация дала нам возможность долго жить, плотно есть и наслаждаться ореховым латте. Взамен она забрала способность к беспричинной, младенческой радости.*

*Если подумать, счастье только таким и бывает: ничем не обусловленным, не завязанным на покупки, карьеру, даже дом или уют.*

*Я хочу узнать у них, откуда оно, это их чертово счастье, берется. Но они лишь перешучиваются да заводят свой любимый мотив. Неужели это и есть тот Эдем, из которого нас навеки изгнали к кредитным машинам и тарифным планам?»*

Сейчас Виктор Мартинович находится в Индии. Вчера он рассказал о том, как оказался в номере с дикими пчелами.

*«О том, что дикие пчелы опасны, меня предупреждали еще лесники в Сундарбане (Бангладеш),* – говорит Виктор Мартинович. *– Ужалит одна – подтянется весь улей, – так они объясняли, почему не пускают ближе 10 метров. И вот волшебное утро в Муннаре (Индия), накануне – тяжелый переезд по горам, вписался в отель глубокой ночью, с первыми лучами отмечал за занавеской странное движение. И каково же было мое, так сказать, удивление, когда, отдернув штору, в окне со щелями, в которые мог пролезть слон, совокупляющийся с носорожицей, я обнаружил этот подарок природы. Снимок – претендент на премию Дарвина буду показывать отельерам в Европе, а то ж не поверят!»*

А в воскресенье 26 января Виктор Мартинович уже будет в Минске: *«Далай-лама както сказал, что все мы здорово научились развивать и прокачивать свой разум, изобрели для этого такие штуки, как наука, школа и университет. А сердце – его тоже нужно «растить», по его мнению, совершая добро, отказываясь от мести и злости. Я не Далай-лама, я писатель; мне кажется, занимаясь творчеством, мы тоже «качаем» свое сердце, создавая миры, которые не существовали до нас. В следующее воскресенье я появлюсь на презентации в Музее Богдановича сборника нашей с Ксенией Шталенковой Летней школы, где мы немного поговорим о литературе и короткой прозе».*

**Вера ВИР.**

З НАГОДЫ

Сяргей НАВУМЧЫК

# Як мы спусцілі з лесвіцы Жырыноўскага

*(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.)*

Зразумела, што Ігнатовіч толькі падпісаў адказ, пісаў яго нехта іншы, рангам ніжэйшы супрацоўнік пракуратуры, які, магчыма, і праводзіў праверку. Дарэчы, звяртае ўвагу, што напачатку нават не пазначана прыналежнасць партыі Жырыноўскага да іншай краіны, Расіі, – у пракуратуры яшчэ «расійскае» працягвалі ўспрымаць як «сваё», і такое стаўленне не хутка зменіцца.

Праз год Ігнатовіч памрэ, кароткі перыяд «дэмакратызацыі» пракуратуры скончыцца, і ў час страйку на мінскім метрапалітэне ў жніўні 1995-га, калі мы, група дэпутатаў, звернемся ў пракуратуру па абарону нашага калегі, лідара рабочага руху Сяргея Антончыка, якога спецслужбы тры дні трымалі пад дуламі аўтаматаў, першы намеснік генпракурора Кандрацьеў цынічна заявіць нам, што слова прэзідэнта Лукашэнкі – вышэй за Канстытуцыю і законы.

## «Забяспечыць яўку для дачы паказанняў…»

Але ў снежні 1991 года мы дамагліся, каб праваахоўная машына спрацавала: у маскоўскую міліцыю была нават накіравана тэлеграма з просьбай «забяспечыць яўку для дачы паказанняў у Цэнтральны РАУС Мінска Уладзіміра Жырыноўскага» (іншая справа, што начальнік крымінальнага вышуку Масквы адмовіўся гэта рабіць).

Словам, у сітуацыі з Жырыноўскім праваахоўныя органы выкарыстали ўсе альбо амаль усе юрыдычныя магчымасці – але іх намаганні не мелі палітычнай падтрымкі ад вышэйшай улады.

Такая падтрымка, безумоўна, павінна была быць ад найвышэйшай службовай асобы – старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча.

І справа тут, канешне, не толькі ў юрыдычным пакаранні маскоўскага шавініста. Адсутнасць у заканадаўстве палажэнняў аб забароне заклікаў да ліквідацыі дзяржавы – зусім не апраўданне бяздзейнасці таго, хто гэтую дзяржаву абавязаны абараняць палітычна.

Інцыдэнт з Жырыноўскім даваў магчымасць самай высокай службовай асобе з самай высокай трыбуны на ўсю краіну выразна і адназначна заявіць, што нікому не дазволена ставіць пад сумненне суверэнітэт Беларусі. Шушкевіча тады чынавенства яшчэ ўспрымала як «самага вялікага начальніка» і, безумоўна, вымушана было б прыслухацца. Такая заява мела б асабліва важнае значэнне менавіта ў тыя, першыя, дні пасля распаду СССР, бо прымусіла б задумацца прыхільнікаў аднаўлення імперыі, якія ўжо распачалі сваё наступленне на беларускую Незалежнасць.

Але Шушкевіч не палічыў патрэбным гэта зрабіць.

Мае сябры той візіт Жырыноўскага ў Мінск і абставіны ягонага «палёту» з лесвіцы Дома ўрада час ад часу прыгадваюць мне з гумарам (не забываецца пра той прыезд і Жырыноўскі, мяркуючы па ягоных інтэрв'ю).

Мне ж ні тады, ні цяпер не бачылася ў гэтым нічога смешнага. Было зразумела, што гэта толькі пачатак і прыхільнікі аднаўлення імперыі, адчуўшы сваю беспакаранасць, будуць дзейнічаць актыўна.

Так яно і адбылося.

**Друкуецца паводле кнігі Сяргея Навумчыка «Дзевяноста першы» (Бібліятэка Свабоды. XXI стагоддзе, 2-е выданне, Радыё Свабодная Еўропа / Радыё Свабода, 2016).**

ШАШКІ

## Заданні для размінкі

Рашыць самастойна прапануем кампазіцыі гросмайстра з ЗША **Аляксандра Маісеева**.

№1 **Белыя:** шашкі a3, a5, дамка b6 (3).
**Чорныя:** c3, d6, b8 (3).
№2 **Белыя:** e1, b2, f2, a5, d6, c7 (6).
**Чорныя:** h2, a3, f4, e5, f6, h8 (6).

## Кампазіцыйныя эксперыменты

Свае кампазіцыйныя эксперыменты, практычныя па змесце, выкладвае ў «Фэйсбук» вядомы мінскі гросмайстар **Андрэй Валюк**. На некаторыя з іх прапануе звярнуць увагу нашых чытачоў украінскі кампазітар **Анатоль Панчанка** (№4 і №5 падаюцца ў яго апрацоўцы).

№3 (гл. дыяграму) **Белыя:** a3, a5, b2, b4, g3, h2, h4 (7).
**Чорныя:** a7, b6, c5, c7, d6, e5, f4 (7).
g5, f4, f4(cd4), g5, c5, g5(c5), f6(d4), e7(e3), d8(d2, c5),c3, c3x.
№4 **Белыя:** a3, b2, c1, c3, e1, f4, g3, h2, h4 (9).
**Чорныя:** a5, b6, b8, c5, d6, e7, f2, f6, f8, h6 (10).
fg5, g7, g3(e5), f4, f4(f6), e5, e5(c7), d2(d6,d8), e3(e7), c3(f6), f4x.
№5 **Белыя:** a3, a5, b2, b4, d2, f2, h4 (7).
**Чорныя**: a7, b8, c7, d4, d6, f6, h6 (7).
de3(de5,ef4), d6, c3(g3), b6(e1), c7, g5(h4), a5, e7(g3), f8(f2), a3(d4), b2(e3), c1(g1), f4(h2), b8(g5), b6, a7(b4), d4=.
Тонкая гульня на нічыю.
Наступныя міні належаць вядучаму рубрыкі. Знайдзіце выйгрыш за белых самастойна.
№6 **Белыя**: b4, d2, e3, e7,g1 (5).
**Чорныя**: a5, b2, f4, g5, h8 (5).
№7 **Белыя**: a5, a7, b4, f4, g5, h2 (6).
**Чорныя**: c3, d2, d8, e3, e7, f6 (6).

## Дуэль з чэмпіёнам

Прапануем другі заключны тур конкурсу на лепшае рашэнне дамачных праблем-100 чэмпіёна свету ў гэтым жанры **Рыгора Краўцова**. Знайдзіце выйгрыш белых пры іх першым ходзе. У некаторых пазіцыях маецца падказка.

№8 **Белыя**: шашкі 14, 32, дамкі 2, 21 (4).
**Чорныя**: шашкі 29, 36, 39, 41, дамка 23 (5).
№9 **Белыя**: шашкі 19, 32, 33, 41, 50, дамка 38 (6).
**Чорныя**: шашкі 10, 17, 31, дамкі 15, 18, 49 (6).
44...
№10 **Белыя**: шашкі 19, 22, 24, 29, 32, дамка 47 (6).
**Чорныя**: шашкі 10, 11, 15, 21, 31, 39, 40, дамка 17 (8).
36...
№11 **Белыя**: шашкі 10, 33, 49, дамкі 25, 38, 39 (6).
**Чорныя**: шашкі 5, 7, 8, 21, 27, 31, 41, дамкі 19, 23, 24, 35 (11).
47...
№12 **Белыя**: шашкі 10, 14, 24, 43, 47, дамкі 30, 49 (7).
**Чорныя**: шашкі 12, 16, 17, 27, 38, 45, дамкі 2, 32, 50 (9).
41...
№13 **Белыя**: шашкі 13, 19, 24, 29, 36, 41, 44, дамка 4 (8).
**Чорныя**: шашкі 2, 7, 10, 15, 17, 35, 43, дамка 26 (8).
31...
№14 **Белыя**: шашкі 20, 23, 25, 29, 32, 38, 40, 42, 47, дамкі 15, 26, 47 (12).
**Чорныя**: шашкі 9, 11, 13, 14, 17, 21, 30, 34, 36, 39, дамкі 1, 5, 45 (13).
18, 46-41...

## Супаставім рашэнні

«Народная Воля» ад 10 верасня 2019 года. Конкурс рашэння памяці **Мікалая Грушэўскага**.

**№1** – g3(f2), g5(a1), d2 (выйграе таксама d8 – гэта прыватнае пабочнае рашэнне), c3, f6x.
**№2** – e7(f6), c3, e7, b4, d6 x.
**№3** – ef2(g3), h2, c3, e7, b4, b8x. У гэтым заданні выйграе таксама gf2, fe3, e7 x і h2, f2(g3), c3, e7 x.
**№4** – d8, h8, g7, f4, d8x.
**№5** – ab2(d4), e7(g1), g5, c3, d4, f2, e3x.
**№6** – g7(h6), b8(e3A), dc7, e5, c5 xA(e7), a7, c5, d8 x.

Дакладныя адказы даслалі: **Аляксандра Камінская** (Вілейка), **Юрый Голікаў** (Цвер, Расія), **Эдуард Дамброўскі, Віталь Варушыла, Іван Наўроцкі** (Мінск), **Аляксандр Шурпін** (Клімавічы), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Рыгор Краўцоў** (в.Рублёўск Круглянскага раёна), **Уладзімір Валчкоў** (Маладзечна), **Леанід Жыхар, Фёдар Карпей** (Мядзел), **Ігар Ананіч** (Гродна), **Уладзімір Панько** (Камянец), **Сяргей Бурко** (Орша), **Валітдзін Макшанаў** (2010 г.н., г.Сібай, Рэспубліка Башкартастан), **Анатолій Чумакоў** (Светлагорск), **Валерый Бандаранка** (в.Выжары, Магілёўскай вобл.), **В.Бялоў** (Магілёў). Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць!

Пасля кансультацый з удавой Мікалая Грушэўскага Алай Аляксандраўнай прыз за актыўны ўдзел у конкурсе атрымаюць **Аляксандра Камінская, Леанід Жыхар, Фёдар Карпей**, **Ігар Ананіч**, **Сяргей Бурко**, **Уладзімір Валчкоў, Аляксандр Шурпін.**

Свае лісты дасылайце на адрас:
***220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а, «Шашкі»***
або на электронны адрас рэдакцыі:
*shulga.checkers@gmail.com*.

**Віктар ШУЛЬГА,**
**міжнародны майстар спорту**
**па шашачнай кампазіцыі.**

**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
**Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**
**nvonlineinfo@gmail.com**
**http://www.nv-online.info**
**Падпісныя індэксы:**
**63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**
**Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 20.01.2020 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 007 экз. Заказ № 121.